ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

5 снежня 1997 г. № 49/3925 Кошт 3 000 руб.



### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Працягваецца падпіска на наш тыднёвік на першую палову 1998года. Падпісацца на "ЛіМ" можна ў любым паштовым аддзяленні.*

*Кошт тыднёвіка для індывідуальных падпісчыкаў на месяц — 15 тысяч, на квартал — 45 тысяч, на паўгоддзе — 90 тысяч, для ведамасных падпісчыкаў на месяц — 25 тысяч, на квартал — 75 тысяч, на паўгоддзе —150 тысяч.*

**Наш індэкс — 63856.**



# *Алесю Разанаву — 50*

І яшчэ адзін "пяцідзесятнік" з'явіўся сярод сярэдняга пакалення літаратараў — поўдзень свайго веку сустракае Алесь Разанаў. Творца слынны, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы, якой, як вядома, у 1990 годзе была адзначана яго кніга паэзіі "Вастрыё стралы". А напісанае Алесем Сцяпанавічам — ужо сёння можна пэўна сказаць — не толькі залаты запас сучаснай беларускай літаратуры, а і тыя важкія набыткі, якія не паблякнуць з гадамі, дзесяцігоддзямі. Таму што талент А. Разанава вельмі глыбінны ў сваёй сутнасці. А яшчэ таму, што напісанае ім настолькі неардынарнае, самабытнае, што каб належным чынам ацаніць яго, патрэбен час...

Мы віншуем Алеся Сцяпанавіча з юбілеем і зычым яму новых жыццёвых і творчых поспехаў.

*Артыкул, прысвечаны 50-годдзю А. Разанава, чытайце на стар. 6—7.*

*Фота К. Дробава*

# КОЛА ДЗЁН

***Дзівосныя дзеі Твае, Госпадзе!.. На пачатку тыдня друк паведаміў пра рэдкую магчымасць убачыць у начным небе надзвычайную з'яву: усе 8 планет Сонечнай сістэмы — Плутон, Меркурый, Марс, Венера, Нептун, Уран, Юпітэр і Сатурн выстраіліся ў адзін ланцужок, які замыкае сярпок Месяца. Такі "парад" планет (яго можна будзе назіраць да 8 снежня, а зноў — толькі праз 100 гадоў) радуе вока, але, кажуць, не абяцае нічога добрага. Наадварот: прадказвае розныя прыродныя катаклізмы і беды чалавечыя. І яно быццам і праўда: у ноч з 1 на 2 снежня Расію (а разам з ёю і Беларусь) скаланула жахлівая трагедыя ў Кузбасе — у выніку выбуху метану загінула 67 шахцёраў... А ў Мінску таго ж 2 снежня прайшло пасяджэнне Выканкама Саюза Беларусі і Расіі пад старшынёўствам В. Чарнамырдзіна. Былі прыняты, паводле афіцыйных паведамленняў, важныя рашэнні адносна перспектыў супрацоўніцтва РБ і РФ, падведзены вынікі работы Саюза за сёлетні год. Увогуле ж было абмеркавана больш чым 100 самых розных пытанняў, частка якіх падрыхтавана для вынясення на Вышэйшы Савет СБІР. І сярод усіх пачутых намі важкіх, так бы мовіць, "дзяржаўных" слоў прагучала такая вось суцяшальная канстатацыя: Расія прадасць Беларусі столькі нафты і газу, колькі апошняя зможа купіць... А за што яна купіць — гэта ўжо, зразумела, не клопат Расіі, перад якой Беларусь і без таго ў даўгах, як у шаўках... Словы, словы... Якая ж зараз іх цана, хай нават самых важкіх і высокіх? Гэта калісьці яно, слова, было першым. А цяпер... "Слова цягнецца за словам, канца-краю не відно..."***

## *ПРЫЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ*

Указам прэзідэнта на пасаду старшыні Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку прызначаны Міхаіл Падгайны, які ўчора быў прадстаўлены калектыву Дзяржкамдруку і прыступіў да сваіх новых абавязкаў. Параўнаўча нядаўна М. Падгайны ўзначальваў Камітэт па справах моладзі, так што гэта не першая "камітэцкая" работа ў ягоным службовым лёсе. Тут міжволі хочацца пажадаць "дай Бог не апошняя", але апошнім часам Дзяржкамдрук стаў нібыта "кузняй кадраў", кіраўнікі ягоныя змяняліся амаль калейдаскапічна. Так што, можа, справе і не пашкодзіла б, каб хто-небудзь затрымаўся там трохі даўжэй, хоць бы ў гаспадарцы паспеў агледзецца...

## *АДПУШЧЭННЕ ТЫДНЯ*

З 1 снежня Нацыянальны банк Беларусі "адпусціў" долар — дазволіў камерцыйным банкам і дылінгавым кампаніям самастойна вызначаць абменны курс замежнай валюты пры ажыццяўленні здзелак яе куплі-продажу, у залежнасці ад попыту і прапанавання той самай валюты. Тая курсавая палітыка, якая дагэтуль праводзілася на наяўным рынку валюты, сябе ўжо не апраўдвала. Таму Нацбанкам і былі зроблены захады па лібералізацыі і развіцці пакуль толькі наяўнага рынку. Інакш кажучы, Нацбанк пайшоў насустрач насельніцтву. Аднак праблема збліжэння афіцыйнага і рэальнага курсаў валюты застаецца. І спадзяванні на яе вырашэнне ў тым ж Нацбанку — вельмі песімістычныя...

## *"АБЯССУДЖАНАСЦЬ" ТЫДНЯ*

Сёння ўсе суды Беларусі "абяссудзелі" — суддзі краіны (а судзейскі корпус налічвае 1047 чалавек) сабраліся на свой першы з'езд. Ён, як і нядаўні з'езд настаўнікаў, праводзіцца па ініцыятыве прэзідэнта. Мауляў, нягледзячы на тое, што закон аб судаўладкаванні і статусе суддзяў быў прыняты яшчэ два гады назад, да дагэтуль у краіне не было органа судзейскага самакіравання на рэспубліканскім узроўні. У адпаведнасці з дэкрэтам прэзідэнта такім органам і з'яўляецца з'езд, які збіраецца раз у чатыры гады, а ў прамежку паміж з'ездамі — абраны ім Савет суддзяў. З'езд прыме і Кодэкс гонару суддзяў, які будзе рэгламентаваць іх уклад жыцця і паводзіны па-за службай. Усё добра, як той казаў. Толькі вось ці паспрыяе з'езд і ягоныя рашэнні большай незалежнасці нашага суда і саміх суддзяў? Дагэтуль, на жаль, мы не маглі гэтым пахваліцца...

## *НЕАДПАВЕДНАСЦЬ ТЫДНЯ*

Вучоныя Навукова-даследчага інстытута працы Міністэрства працы РБ правялі апытанне сярод рабочых і спецыялістаў буйных прадпрыемстваў краіны. Вучоныя паспрабавалі высветліць ступень задаволенасці людзей сваёй працай і аплатай яе. Лічбы даследу надзвычай красамоўныя. Зместам працы, скажам, задаволены 93 працэнты апытаных. Але затое 87 працэнтаў рабочых і спецыялістаў незадаволены аплатаю гэтай сваёй любімай працы. А больш дакладна — неадпаведнасцю аплаты кошту жыцця. Вось і паўстае перад людзьмі спаконвечнае пытанне: як жыць? А нехта між тым усё гаворыць і гаворыць пра беларускі "эканамічны цуд", пра рост аб'ёмаў і тэмпаў вытворчасці ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы...

## *РЭГІСТРАЦЫЯ ТЫДНЯ*

Ці ёсць на Беларусі казакі? Не спяшайцеся з адказам, бо можаце і памыліцца. Аказваецца, ёсць і нямала, і не дзе-небудзь у адным куточку, а паўсюль, ад Брэста да Віцебска і ад Гродна да Гомеля. Ажно цэлых 136 казацкіх абшчын на Беларусі! І аб'яднаны яны зараз у грамадскай суполцы Усебеларускае адзінае казацтва, якая з казацкім ліхацтвам і зарэгістравана Міністэрствам юстыцыі РБ. Здзіўленне ў неказацкага насельніцтва Беларусі могуць выклікаць статутныя задачы і мэты новага грамадскага аб'яднання. Такія, напрыклад, як "захаванне казацкіх традыцый", якія невядома дзе і невядома калі ў нас былі, аказанне падтрымкі таленавітай моладзі, удзел у розных культурных мерапрыемствах... Тут нават не скажаш бяскрыўднае: чым бы дзіця ні цешылася, абы не плакала. Тут, дальбог жа, і не хочучы ўсклікнеш: "Любо!"

## *РАСПАРАДЖЭННЕ ТЫДНЯ*

Прэзідэнт краіны А. Лукашэнка падпісаў распараджэнне "Аб рэстаўрацыі палацава-паркавага ансамбля XVII—XVIII стст. у Нясвіжы", накіраванае на аднаўленне і зберажэнне жамчужыны нашай культуры. Даўно пара! Нясвіж, найперш ягоны палацава-паркавы ансамбль, — не проста жамчужына беларускай архітэктуры і культуры наогул, гэта нешта значна большае. Нясвіж, сталіца некаранаваных каралёў Беларусі Радзівілаў, — гэта сама гісторыя зямлі нашай і дзяржавы беларускай, гэта своеасаблівы сімвал яе, жывое сведчанне яе старадаўняй рэальнасці. І таму даўно час вярнуць ансамблю колішні выкшталцоны выгляд і праз развіццё турызму паказаць свету яго веліч і хараство. А, можа, варта зрабіць ансамбль (што было б добрай данінай традыцыі) афіцыйнай і галоўнай урадавай рэзідэнцыяй беларускай дзяржавы? Ужо адно гэта падмацуе яе тысячагадовыя вытокі...

## *ПАДАРУНАК ТЫДНЯ*

Прадстаўнік ААН у Рэспубліцы Беларусь Павел Крал прывёз у Пінск адмысловы падарунак — чатыры тысячы экземпляраў фотаальбома "Пінск". Выданне падрыхтавана па ініцыятыве прадстаўніцтва ААН у Беларусі і прысвечана 900-годдзю горада над Пінай. У альбоме Пінск і пінчукі, найперш пінчанкі, паўстаюць ва ўсёй сваёй красе. А тэкст, пададзены па-беларуску і па-англійску, раскрывае багатую гісторыю і сённяшні дзень горада, дае ўяўленне аб яго значнні ў развіцці эканомікі і культуры Палесся і ўсёй Беларусі. У якога наступная нашага горада круглы юбілей?

---

СВЯТЫ

# Князь Вітаўт не памыліўся

У мінулую суботу сотні цёмнавокіх і смуглявых нашых суайчыннікаў сабраліся ў Дзяржаўнаму тэатру музычнай камедыі. Тут былі і простыя людзі здалёку, і сталічная інтэлігенцыя, і ўрадавая дэлегацыя з Татарстана: татары Беларусі святкавалі 600-годдзе пражывання на нашай зямлі.

Як прынята ў мусульманскіх народаў, сход адкрыў мула. А. Шабановіч, прэзідэнт беларускага аб'яднання татар "Аль-Кітаб", таксама працытаваў тое-сёе з Карана. Напрыклад, гэта: "Не будзьце падобнымі на тых, хто забыўся пра бога, а бог зрабіў так, што яны забылі саміх сябе". Асеўшы на беларускай зямлі, татары не прасілі для сябе нейкіх прывілей, але і не лічылі сябе ніжэй за іншых. А захавацца ім дапамагла рэлігія. Вось чаму стала важнай падзеяй закладка каменя ў падмурак мячэці, якая пабудуецца ў Мінску і макет якой красаваўся ў прэзідыуме.

Паміж афіцыйнымі віншаваннямі прэзідэнта РБ, расійскага міністра і Уладыкі Філарэта (усе былі агучаны іншымі асобамі — У. Замяталіным, В. Лашчыліным, А. Алешкам) хораша прагучала выступленне кіраўніка дэлегацыі, прэм'ер-міністра Татарстана Ф. Мухаметшына. Вядомы як чалавек прагрэсіўных поглядаў, інтэлектуал і прыхільнік рэформаў, ён паказаў і сваю абазнанасць у гісторыі беларускіх татар. Выказаўшы падзяку кіраўніцтву РБ за дзяржаўны ўзровень святкавання (у падарунак прывезены дыван з вывяай Казанскага крамля), прэм'ер-міністр паэнаёміў прысутных з сённяшнім днём рэспублікі, якая сёлета адзначыла сёмыя ўгодкі дэкларацыі аб суверэнітэце. За кароткі час Татарстан набыў рэальныя правы і паўнамоцтвы, займеў дыпламатычныя прадстаўніцтвы ў ЗША, Францыі, Турцыі і многіх іншых краінах свету. Спынены спад вытворчасці, поўным ходам ідзе канверсія, сёлетнія ўраджаі збожжавых лепшыя, чым на Кубані, мінімальны заробак у чатыры разы большы, чым у цэлым па Расійскай Федэрацыі, праводзіцца ў жыццё ідэя сацыяльна зарыентаванай рынкавай эканомікі. Асцярожнасць у правядзенні рэформаў збліжае нашы народы, заўважыў высокі госць.

З іншых выступленняў, якія прагучалі, — старшыні выканкама Сусветнага кангрэсу татар, пасла Турцыі ў РБ, прадстаўнікоў татарскіх дыяспар Літвы і Польшчы — яскрава вынікала, што вялікі князь Вітаўт у свой час не памыліўся, запрасіўшы воінаў хана Тахтамыша на службу ў ВКЛ.

На заканчэнне голасам Левітана лідэр беларускіх татар зачытаў зварот да нашчадкаў будучага тысячагоддзя. Там былі і такія словы: "Адраджайце і беражыце рэлігійныя і культурныя традыцыі, вынішчайце парасткі сапеніцтва, мацуйце дружбу з усімі народамі і канфесіямі". Накот сапеніцтва сказана выдатна, нас нічому падобнаму, здаецца, не вучылі.

Паміж урачыстай часткай і канцэртам удзельнікі сходу частаваліся нацыянальным печывам, аглядалі шматлікія выставы, слухалі народныя мелодыі, дзяліліся навінамі і ўражаннямі. У гэтай бочцы мёду была толькі адна лыжка дзёгцю: мова народа, з якім за 600 год зрадніліся татары, на ўрачыстым паседжанні чамусьці аказалася забытай.

**НАШ КАР.**



*На здымку: на ўрачыстай цырымоніі закладкі мячэці выступае Фарыд Мухаметшын.*

*Фота В. ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

---

КАНФЕРЭНЦЫІ

# Славяншчына ў сусветным кантэксце

У Белдзяржуніверсітэце прайшла III Міжнародная навуковая канферэнцыя "Славянскія літаратуры ў кантэксце сусветнай". У праграме было заяўлена больш як 150 выступленняў.

Адкрывалі канферэнцыю прарэктар БДУ, доктар гістарычных навук П. Брыгадзін і дэкан філалагічнага факультэта, член-карэспандэнт Акадэміі адукацыі РБ Л. Мурына. Вялі рэй старшыня аргкамітэта, акадэмік АН Еўразіі В. Рагойша і член-карэспандэнт НАН Беларусі А. Лойка.

Вядома, як важна сёння па-сучаснаму, навукова-карэктна ўбачыць надзвычай драматычныя шляхі развіцця славянскіх літаратур, ацаніць той духоўны вопыт, які ў гэтых літаратурах захаваны. Важна таксама змясціць славяншчыну ў сусветны кантэкст.

Цікавымі былі выступленні замежных гасцей, сярод якіх Е. Сіпка з Прэшава, С. Семакова з Браціславы, Г. Стойкаўска са Скоп'е, М. Гольберг з Драгобыча, Н. Гапрындашвілі з Тбілісі, В. Цыбенка з Масквы. Натуральна, найбольш прадстаўнічымі былі шэрагі айчынных навукоўцаў. Сярод іх вядомыя знаўцы беларускай, рускай, польскай, украінскай, чэшскай, сербскай і заходнееўрапейскіх літаратур М. Мішчанчук, Т. Шамякіна, Л. Тарасюк, А. Станюта, П. Ткачоў, Е. Лявонава і іншыя. Толькі ў персаналіях у дакладах удзельнікаў канферэнцыі прагучалі імёны творцаў літаратур славацкай, балгарскай, македонскай, грузінскай, эстонскай, швейцарскай, лацінаамерыканскай, італьянскай, французскай, англійскай, ірландскай, нямецкай, нарвежскай і іншых. Прадметам асобнай зацікаўленасці сталі індаеўрапейскія пласты, біблейскія матывы, кантамінацыі розных стылёвых эпох у лёсах славянскіх літаратур.

У свеце нярэдка здараецца, што літаратурная традыцыя развіваецца на іншанацыянальнай мове. Вялікую цікавасць ва ўдзельнікаў канферэнцыі выклікалі падобныя перыяды ў гісторыі літаратуры беларускай. Гэта з'явы беларуска-польскага, беларуска-рускага памежжа, факты, звязаныя з лацінамоўнай беларускай літаратурнай традыцыяй. Цікавымі на канферэнцыі былі і традыцыйныя кампаратывісцкія даследаванні, і ўзоры ў рэчышчы гістарычнай паэтыкі, і фенаменалагічныя росшукі.

Канферэнцыя яшчэ раз угрунтавала тую ісціну, што ўсе славянскія літаратуры, кожная ў свой час і па-свойму, арганічна звязаны з сусветнай культурай. Сапраўды, няма нічога ў свеце культуры, што б не мела водгуку ва універсальным вопыце чалавецтва.

**Л. С.**

---

ПОГЛЯД

# З рыдлёўкай супраць Эльбруса

У гэтым годзе споўнілася 50 год творчай дзейнасці В. Быкава. Імя Васіля Уладзіміравіча Быкава даўно перайшло ўжо межы ўласна літаратуры і існуе незалежна ад яе. Яно стала сімвалам нечага сапраўднага, праўдзівага як для тых, хто чытае В. Быкава, так і для многіх з тых, хто яго не чытае. А часта і ўвогуле нічога не чытае. На жаль, такія рэдка ўпускаюць выпадак, мякка кажучы, "паразважаць" пра кніжкі "пісацеляў" і г. д. Калі спрачаешся з імі аб рускай літаратуры, то яшчэ нічога, а як даходзіць справа да беларускай, тут ужо ўсё... "Купала?.. Знаем — знаем... "Я мужык-беларус, пан сахі і касы..." і — гэтакая, ведаеце, усмешачка. Такая ж рэакцыя і на Коласа, і на Бядулю, на ўсіх, каго "ў школе прайшлі". Як на нешта несур'ёзнае, што даводзіцца вывучаць на ўроках і рабіць пры гэтым сур'ёзны выгляд. А вось з Быкавым такі выкрунтас не праходзіць! "Быков — да... Но я его на русском люблю читать"... Так казалі амаль усе, каму я задаваў пытанне пра іх адносіны да творчасці Быкава. Заўважым, гэта былі людзі, якія альбо вельмі мала, альбо зусім, як мне падаецца, нічога не чытаюць. Аднак Быкава ні перадражніць, ні проста адпіхнуць яны не змаглі! Адзіная "лазейка" — мова. Ніякія доказы, што "на русском" — гэта ж пераклад, не дзейнічалі. Але што Быкаў — "это — да...", што яго нельга абмінуць, не паказаўшы тым самым сваю адсталасць, — для ўсіх было адназначна.

У. Маякоўскі некалі напісаў, што калі нават Эльбрус будзе перашкаджаць бальшавікам, іх планам, то — "срыть" яго, і ўся справа! "Все равно не видать в тумане!" Маўляў, і не заўважаць, быў той Эльбрус ці не было яго ўвогуле. Але як Эльбрус з Каўказа, так і Васіля Быкава з беларускай літаратуры "срыть" так і не здужалі. Сёння Быкаў па сутнасці зноў пад забаронай. Рассыпана ўжо набраная кніга ягоных апавяданняў. Для цяперашніх афіцыйных беларускіх СМІ ён — персона нон-грата. Усё гэта вельмі нагадвае Маякоўскага з рыдлёўкай супраць Эльбруса. Камедыя, трагікамедыя, фарс — як акрэсліць жанр часу, у якім мы цяпер жывём?..

Разважаючы пра лёс Пушкіна і пра тагачасную ўладу, А. Ахматава пісала: "Да гэтай пары мы казалі, што яны з ім зрабілі, але надышоў час сказаць, што ён з імі зрабіў!" Надыдзе такі час і на Беларусі.

**Уладзімір ПЯТРОЎСКІ**

*г. Маларыта*

## Украінская прэмія — Сяргею Законнікаву

**Міжнародная прэмія Украіны імя Рыгора Скаварады прысвоена знакамітаму беларускаму паэту, галоўнаму рэдактару часопіса "Полымя" Сяргею Законнікаву, які, як вядома, плённа займаецца і перакладчыцкай дзейнасцю, асабліва вялікую ўвагу пры гэтым надаючы ўзнаўленню па-беларуску твораў як вядучых, так і маладых украінскіх пісьменнікаў. Да ўсяго С. Законнікаў часта наведвае братнюю Украіну, прынамсі, неаднаразова ўдзельнічаў у традыцыйным Шаўчэнкаўскім свяце, на якое з'язджаюцца лепшыя паэты свету. У пастанове аб ганараванні Сяргея Іванавіча гэтай высокай узнагародай належным чынам адзначаецца як яго літаратурная і перакладчыцкая дзейнасць, так і вялікі ўклад у справу ўмацавання дружбы паміж украінскім і беларускім народамі.**

**Прэмія імя Р. Скаварады — не першая ўзнагарода С. Законнікаву падобнага кшталту. Кніга яго паэзіі "Чорны конь Апакаліпсісу", выдадзеная ў Варшаве ў перакладзе на польскую мову (аб чым "ЛіМ" у свой час паведамляў) была адзначана Міжнароднай літаратурнай прэміяй імя Вітольда Хулевіча, а яе аўтар быў занесены ў спіс лепшых паэтаў Еўропы 1996 года.**

## Івянецкія майстры



**Многія гады Івянец быў цэнтрам беларускай керамікі, дзе векавыя традыцыі ганчарства захоўваліся дзякуючы заводу мастацкай керамікі і майстрам, якія там працуюць. Творчасць ганчароў Франца Целяшэўскага, Віктара Кулікоўскага, Івана Малчанава, Міхаіла Звярко ўвайшла ў скарбніцу нацыянальнай культуры. Ёсць у Івянцы і паслядоўнікі гэтых майстроў, здольных прадоўжыць традыцыю івянецкай керамікі.**

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

*На здымку: старэйшы ганчар завода Антон Вікенцьевіч Пракаповіч і яго маладыя калегі Антон Ліпніцкі і Анатоль Высоцкі — усе кадры квітнеючай некалі "ганчаркі".*

## Выклік сучаснасці

**Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр, цэнтр Еўрапейскага супрацоўніцтва "Еўрафорум", Польскі інстытут (Мінск), БГФ "Наша Ніва" і Беларускі інстытут Цэнтральна-Усходняй Еўропы сёння і заўтра ладзяць адкрыты навукова-практычны семінар: "Беларусь, Польшча, Сярэдняя Еўропа: выклік сучаснасці".**

**Адкрыццё семінара — сёння а 15-ай гадзіне ў актавай зале БГАКЦ (г. Мінск, вул. Кірава, 21).**

**У першы дзень прагучаць даклады: Уладзімір Роўда, к.ф.н. "Генеалогія грамадзянскае супольнасці (Польшча і Беларусь)", Паўло Церашкевіч, к.ф.н. "Этнасы й нацыі ў пераходных грамадствах: Беларусь", Ігар Бабкоў, рэдактар часопіса "Фрагменты" "Беларусь: няскончаная мадэрнасць", дыскусія.**

**Заўтра, у суботу, выступяць доктар Станіслаў Брындза-Стабро (Кракаўскі універсітэт) "Змены ў польскай культуры пасля 1989 года". Акаш Энгельмаер (былы амбасадар Венгрыі ў Польшчы й Беларусі)"Параўнаўчы аналіз палітычнай сітуацыі ў Польшчы і Венгрыі".**

**Адбудзецца таксама прэзентацыя часопіса "Фрагменты" (N 3—4, 1997 г.): "Круглы стол" на тэму: "Сярэдняя Еўропа: культурныя міт і/ці культурная рэальнасць".**

**Уваход на семінар — вольны.**

ПОШТА

***Шаноўны "ЛіМ"!***

***Дасылаю на твой адрас свой летапіс жыцця, тыповы, на маю думку, для многіх маіх равеснікаў. Буду вельмі рада, калі ён заслугоўвае ўвагі.***

*Ваша пастаянная падпісчыца і зрэдку-час карэспандэнтка Алена БАРАДЗІНА.*

Гэта не споведзь ідэальнага беларускага інтэлігента. Я — тыповы "прадукт" застою і не пакутніца за нацыянальную ідэю. У 70-я разам са сваімі аднагодкамі натхнёна спявала "Мой адрес — Советский Союз". І дзеці мае па-беларуску не размаўляюць. А я і не цісну на іх: супраць волі чалавека, гвалтам, не зробіш яго нават шчаслівым. Але ўсё маё жыццё — перад імі, і я спадзяюся, што яны гэтак жа вызначацца і ва ўласным, гэтак жа пачуюць свае беларускае сэрца.

пытаюць: "Вы не ошиблись? Возможно, вы поступаете на русское отделение?" Але і беларускае, хоць і колькасцю адна група на патоку, існавала. Памятаю, як журыліся мы, што ў нашых вёсках школы ўвачавідкі рабіліся рускімі. Але мудры Антон Лукіч Юрэвіч суцяшаў нас: "Нічога, дзяўчаткі, на ваш век хлеба хопіць, ды яшчэ з маслам". Хлеба і праўда хапіла, хоць часам і гаркаватага. Я хаваю пажоўклую "Народную (яшчэ тую, народную!) газету" з артыкулам Сяргея Законнікава "Беларускае сэрца". Ён пра тых, хто "ўвесь час былі абдзелены ўвагай, разуменнем, маральнай падтрымкай, якія штодзённа адчувалі дыскрымінацыю, выслухвалі здзеклівыя заўвагі і кпіны з боку сваіх калег і нават вучняў, але..." Але зноў і зноў адчынялі дзверы школьных класаў і неслі туды беларускае слова. Часам горка было і ад кампліментаў, якія гучалі так: "Я думала, што вы выкладаеце этыку ці англійскую, а вы..." Шчырае здзіўленне

Але, як ні сумна, радавод да пятага калена я, як і мае сучаснікі, наўрад ці здолею скласці. Нават мая маці няшмат расказала мне аб сваіх бацьках. "Час быў такі..." Зручная для некага формула. Каму гэта трэба: затлуміць, задушыць бытам? Наўрад ці скрануся я ў гэтых пошуках далей, чалавек з правінцыі, які патанае ў клопатах пра хлеб надзённы. "Хлеб наш насушчны, усіх нас пасушыць", — згаджаешся з горкай іроніяй Кузьмы Чорнага...

Я — не ідэал. І наўрад ці маю права называцца інтэлігентам, не маючы за плячыма 3 універсітэтаў: дзеда, бацькі, уласнага. І ўсё ж я іх няўлоўна адчуваю, бо ў самым раннім дзяцінстве ад свайго дзеда пачула на памяць "Анчар" і "В глубокой теснине Дарьяла", якія гэтак жа памятаю чацвёрты дзесятак год. А што чуюць сённяшнія ўнукі ад сваіх "электаратных" дзядоў? Рытарычнае пытанне.

Дакладна ведаю, што прадзед, актывіст

# Сны аб Беларусі ў канцы XX стагоддзя

А я — руская. Праўда, у дадзеным жыццёвым выпадку гэта гучыць як анекдот "Негр загарае". Бо пры любым новым знаёмстве першым пытаннем я чую: "Вы настаўніца?", а другім: "Беларускай мовы?" Часам яны аб'ядноўваюцца, і, я думаю, прычына не толькі ў нашым невыкараняльным нават на самым высокім дзяржаўным узроўні беларускім акцэнце (як выказаўся нехта з расійскіх пісьменнікаў, будучы ў Мінску: "Слова-то, вроде, русские, а вот язык...")

Так, я настаўніца роднай мовы і літаратуры і мой стаж дазваляе мне пэўным чынам убачыць некаторыя праблемы.

Адна з іх — інтэграцыя з Расіяй, якая, магчыма, сёння фарсіруецца не з такой хуткасцю, як тады, калі нараджаліся гэтыя радкі. І, як на думку дылетанта ў паліталогіі, імпэт самых "вялікіх інтэгратараў" значна ачах, прынамсі, яго знешнія праявы. Аднак па-ранейшаму вусцішна ад спакойных разваг некаторых суайчыннікаў, накшталт: "У гісторыі цывілізацыі былі выпадкі, калі слабыя народы растваралiся ў больш моцных". А як быць таму, хто не адчувае гэтай самай слабасці? Не хоча растварацца? Калі адчувае сілы і хоча аддаць іх на карысць сваёй Бацькаўшчыны? І калі выразна разумее пры гэтым, што з правамі меншасці ў нашым грамадстве яшчэ горш, чым з усімі астатнімі?

Інтэлігенцыя — аб'ектыўна прыхільнік прагрэсу, носьбіт прагрэсу. Яна ўсведамляе, што ў імя прагрэсу некаторыя слабыя народы паглыналіся больш моцнымі. І каму у такім выпадку справа да самотнага беларускага сэрца? Хацяя — руская. Прынамсі, магу сцвярджаць, што ўва мне палова расійскай крыві: бацька — ураджэнец паўднёвага Урала (дзе я ніколі не была) і, як казаў пры жыцці, зямляк Ельцына. Прозвішча маё ну проста ад герояў Маркава ці Шолахава. Павінна, здавалася б, адчуваць моцны покліч продкаў, а Таццяну Дзьячэнка лічыць ледзь не за стрыечную сястру.

Але на маім сталe не Маркаў і не Шолахаў, а першКанчэўскі, Дубянецкі, Караткевіч. Я знаходжу ў іх сябе, але гэта асобная, доўгая і шчымлівая размова.

***Я памылкова сеў не ў той вагон,***
***Не ў той вагон і не на тым паўстанку...***
***І нехта паўтарае безупынку,***
***Што я павінен скокнуць на хаду,***
***А не чакаць наступнага прыпынку.***

Гэтыя радкі М. Федзюковіча — і пра сябе, і пра тых, хто трагічна апярэдзіў свой час.

А мяне не ў свой вагон пасадзілі супраць маёй волі. І безумоўна ж, дбаючы аб маім асобным сярод усеагульнага шчасці. У час чарговага перапісу, у самы росквіт застою, мяне настойліва запісвалі рускай. "По отцу!" — пераконвала чыноўніца. Пры абмене пашпарта ўжо ў 80-я я паспрабавала напісаць у картцы "беларуска", але пільнае наменклатурнае вока ўсё ж згледзела "фальсіфікацыю". Так і жыву з беларускім сэрцам і неадпаведным яму запісам у адпаведнай графе. Камусьці гэта было трэба?

...Я — залатая медалістка. І ў прыёмнай камісіі правінцыйнага тады педінстытута, якому сёння ёсць чым ганарыцца, у тым ліку і універсітэцкім статусам, мяне ветліва

маладзенькай практыканткі. Сёння яны складаюць пераважную большасць таго, што называецца электаратам.

Было і масла, у сэнсе бальзаму на душу, у пачатку 90-х. Людзьмі зваліся.

Я — не дысідэнт. Вывучала і выкладала спадчыну Брэжнева і чытала вучням:

***Дзве мовы у мяне —***
***Жыцця майго асновы,***
***Мне іх не разарваць,***
***Як рэчышча крыві.***
***Они слились во мне***
***У паток адзінай мовы***
***Адзінай мовы братства и любви.***

Я мела малодшага па ўзросце брата, таму не адразу прыйшло ўсведамленне, што з двух братоў звычайна заўсёды адзін старэйшы. У нашым варыянце — заўсёды адзін і той жа. І сёння мне хочацца працытаваць зусім іншыя радкі, народжаныя ў такім жа, як і мой, роздуме:

***Я не ведаю, хто будзе***
***Аб Русі знябытай плакаць...***
***Я, напэўна, не заплачу,***
***Хоць і я ў сваім багне***
***Мала што пад небам значу...***

*(Л. Галубовіч. "Саюзная элегія")*

Лепшыя гады майго жыцця прайшлі ў інтэрнацыянальным вайсковым гарадку, і я не кіну каменя ў сяброў маёй маладосці. А як радасна было недзе ў Тэрмезе сустрэць амаль суседа з Зэльвы ці Слоніма! І якое значэнне мела, Іваноў ён ці Абрамян? Але вось "малюнак з натуры". У час апошніх выбараў чую ў суседняй кабіне: "Да вычеркивай всех, все здесь одинаковые дебилы". Вымаўленне чыстае, расійскае. Вось так мае сённяшнія суседзі, адстаўныя ваенныя лётчыкі, вырашаюць мой лёс. У такіх выпадках каўказец хапаецца за зброю. А беларус? У яго ёсць улюбёнае выйсце: паказаць пану ў кішэні кукіш. І я не знаходжу нічога лепшага, як прагаласаваць за прадстаўніка амаль збанкрутаванага на той час БНФ. Я — руская?..

Дарэчы, пра БНФ, і не толькі. Выкладаючы сваім "замежнікам" методыку літаратуры, я кажу ім, што беларус-славеснік — гэта не прафесія, а місія. І калі ты не ў БНФ, то "молва тебя запишет". Прычым неістотна, ліберал ты ці радыкал. Абавязкова цябе будуць лічыць апазіцыянерам і патэнцыяльным нацдэмам. А калі ты жанчына, то мужчыны палічаць за абавязак дасылаць табе паштоўкі выключна з выявай Скарыны. Нават 8 Сакавіка. Праўда, зварот "шаноўная пані" многае кампенсуе.

Дарэчы, пра пані. Некалі бабуля ціхенька, але з гонарам гаварыла, што паходзіць з патомнай шляхты. Яна не лічыла гэта ганьбай, як многія вакол, але мы яе не разумелі, "унукі" Суворава, Чапаева, Паўліка Марозава.

Мая бабуля, вечная працаўніца і цярплівіца, хай гэтыя радкі будуць маёй запозненай данінай любові і павагі! Цяпер я, здаецца, цалкам разумею цябе, і мне сорамна за кпіны з тваіго вымаўлення калі не выхаванкі інстытута высакародных дзяўчат, то, прынамсі, жаночай гімназіі.

новай улады, быў ёю знішчаны на Салаўках, там жа загінуў і дзедаў брат.

Часам заўважаю ў сваім сыне, дзіцяці тыповых "саўкоў", дзіўныя рысы: цягу да вытанчаных рэчаў, карцін, тое няўлоўнае, што называюць пародай. Некаторыя адзначаюць гэта і ўва мне. Але я больш адчуваю сябе сялянкай. І, думаецца, гэтае ўсведамленне жывіцца геннай памяццю. Можа, яна якраз ад уральскай бабулі Анны, якую я ніколі ў сваім жыцці не бачыла? І тады я — руская? З тых не разбэшчаных каласным ладам расійскіх сялян, аб якіх так годна апавядаў мне некалі бацька. З тых, хто, адчуўшы пякельнае дыханне новай дзяржаўнай машыны, пазбаўляўся зямлі, гаспадаркі, падаваўся ў горад, ратуючы дзяцей, і паміраў заўчасна, знудзіўшыся па карміцельцы.

Некалі Сталін сказаў: "У селяніна няма рабскай прывязанасці да зямлі". І ўсё ж яна ёсць. Яе не здолелі вынішчыць. Дваццаць год жыву я ў горадзе, і ўсё ж ува мне выжыла беларуская сялянка, пераадолеўшы моду заехаць як мага далей і пасяліцца як мага вышэй ад роднай зямелькі.

Да таго, як займець свае 10 сотак, я часта прасіла гарадскіх сяброўак узяць мяне на дачу пакорпацца ў зямлі для душы, і "ў гэтым месцы" яны мяне не разумелі, бо бачылі ў такім занятку абрыдлую працу.

Безумоўна, не хацелася б дапускаць блюзнерскай думкі, што да зямлі ўжо цягне па іншай прычыне...

Усё мяняецца ў наш час імкліва. Учарашнія героі становяцца "кучкай авантурыстаў". Я з жахам думала, хутка да яе ж далучаць і Кастуся Каліноўскага, дабяруцца і да яго. Але, перачытаўшы "Мужыцкую праўду", з палёгкай уздыхнула.

Зямля і прыватная ўласнасць — вось грунт дабрабыту для мужыка, лічыў Яська — гаспадар з-пад Вільні. Не парабак, не пралетар. Гаспадар! Сваё — гэта агульначалавечая каштоўнасць і стымул прагрэсу, сцвярджаюць сучасныя філосафы. І таму мара мець на сваіх сотках дамок і бэз пад расчыненым акном сёння ўжо не называецца мяшчанствам. А як, бывала, абараняла годнасць гэтага сасловя мая бабуля, калі мы з сястрой у саўковым запале крычалі: "Мещанство!"

У студэнцтве я ніяк не магла атрымаць "выдатна" па замежнай літаратуры, бо не разумела (і вечна выцягвала) пытанне: "Лёс маленькага чалавека ў паваротныя моманты грамадскага быцця". На сёння некалькі такіх паваротаў я ўжо спасцігла на ўласным ілбе. І, хаця нічога выправіць ужо нельга, я зразумела, што мае вартасці — працяг вартасцей грамадства, як, адпаведна, і мае заганы, а лёс мой — ужо гісторыя.

Але я не хачу, каб яна паўтаралася рэхам бабулінага "Час быў такі...", і не ведаю, што сёння мне рабіць з маім беларускім сэрцам у час, калі моцны народ не мае нічога супраць, каб у ім растварыўся народ слабейшы. Наўрад ці зменіцца і мой беларускі менталітэт, бо я не хачу гэтага. Мне зручна з ім, нягледзячы на тое, што ён не адпавядае запісу ў пашпарце.

**Алена БАРАДЗІНА**

ШЛЯХІ

***Пра раздвоенасць душы і свядомасці беларуса, пра адсутнасць духоўнага яднання і трагічныя наступствы гэтага шмат напісана, пачынаючы з канца XIX ст. і да нашага часу. Гаворачы аб прычынах, аналітыкі называюць найперш геапалітычнае становішча Беларусі, спрадвечнае саперніцтва на нашых землях усходніх і заходніх палітычных і культурных уплываў. Але названыя чыннікі даюць адказы далёка не на ўсе пытанні, пастаўленыя гісторыяй і сённяшнім днём. Відаць, трэба не толькі лічыць чужыя грахі, але прызнаць долю віны і за самімі беларусамі, успомніўшы такія праявы нацыянальнага характару, як сервілізм, "хутарская свядомасць", схільнасць да згодніцтва і асіміляцыі. Пошук гістарычных каранёў такіх рысаў будзе для нас слабым суцяшэннем, бо ёсць прыклад суседзяў, якія мелі падобны гістарычны лёс.***

***Звярнуўшы крытычны позірк на саміх сябе, пашукаем усё ж падставы для жыццёвага аптымізму. Для гэтага, найперш, перагорнем старонкі з некаторых твораў адраджэнцаў канца XIX — пачатку XX стагоддзя, якія запачаткавалі асэнсаванне складанасцяў беларускага шляху, адметнасць нацыянальнай свядомасці беларусаў.***

Лідзія КУЛАЖАНКА

# У пошуках жыццёвага аптымізму

## НА ПУЦЯВІНАХ ДА БЕЛАРУСКАЙ ІДЭІ

XIX стагоддзе, на працягу якога прарастала і выспявала зерне беларускага нацыянальнага адраджэння, адначасова нарадзіла і такую цікавую з пункту гледжання праяў свядомасці плынь як "западно-руссизм". Як зазначаў вядомы публіцыст, грамадскі і палітычны дзеяч Аляксандр Цвікевіч, на працягу XIX і пачатку XX стст. "западно-руссизм" згуртаваў вакол сябе ў Беларусі значны лік прыхільнікаў, выпрацаваў сваю ўласную ідэалогію і ў гэтым сэнсе супроцьпастаўляў сябе плыні нацыянальна-беларускай. Ідэолаг "западно-руссизма" М. Каяловіч беларускі рух назваў сепаратызмам, "польскай інтрыгай", а любіць Беларусь, на яго думку, можна "толькі па-руску". Важна зазначыць, што "западно-руссизм" быў гістарычнай школай і ідэалогіяй цалкам мясцовага паходжання і ўзнік, на думку А. Цвікевіча, "як антытэза сілам паланізуючым, якія ішлі на Беларусь з захаду і якія намагаліся тэорыяй і практыкай давесці, што Беларусь ёсць часць Польшчы і што беларуская народная культура ёсць сваяадменная польская культура"... "Западно-руссисты" якраз і змагаліся супраць гэтай тэндэнцыі, заключаў ён, але ў інтарэсах не Беларусі, а Вялікай Расіі.

Якая ж прычына такой формы свядомасці і яе жывучасці? Акрамя сацыяльна-эканамічных каранёў, на якія ўказаў А. Цвікевіч у працы "Западно-руссизм" (Мн., 1929), былі і ідэйна-псіхалагічныя прычыны, пра якія ён пісаў яшчэ ў 1926 г. Беларуская інтэлігенцыя, на думку публіцыста, набраўшыся "чужога духу", не хоча "выходзіць з таго душэўнага пакою, з таго спецыфічна-інтэлігенцкага духовага камфорту, які даецца ёй прыналежнасцю да высокай, хоць і чужой культуры. Інтэлігенцыя ў гэтым сэнсе і ляніва, і рэтраградна, і апартуністычна". Аналізуючы "аргументы" супраць беларускага культурнага адраджэння, аўтар прыходзіць да высновы, што "справа тут не ў тэарэтычным аргументаванні, а ў самым звычайным патрыятызме", які ў адносінах да Беларусі можа быць толькі ахвярным і для якога беларускай інтэлігенцыі часам не хапае адвагі. "Вось у гэтай адвазе, у гэтым рашэнні пайсці ў беларушчыну, пайсці чэсна, не для адчэпкі, не "для приспособления", а тым больш не для спекуляцыі — вось у гэтым ляжыць галоўная псіхалагічная перашкода". Нельга не пагадзіцца з нярадасным пафасам, якім завяршае свой артыкул А. Цвікевіч: "Безупынна на яго (інтэлігента) будзе насоўвацца пагроза варожых поглядаў, здзеку, кпінаў, — ён будзе ўсюды з ёй сустракацца, усюды яны будуць яго непакоіць. Беларуская Галгофа — інакш нельга назвацьператварэнне сучаснага інтэлігента на Беларусі ў свядомага працаўніка".

XIX стагоддзе, калі Пецярбург актыўна пачаў асвойваць "вновь присоединенные" землі, а Варшава не спяшалася здаваць пазіцыі, асабліва ў сферы культуры і адукацыі, было часам найбольш вострага саперніцтва дзвюх моцных культур на Беларусі. Тым не менш, беларуская ідэя і беларуская самасвядомасць развіваліся ў апазіцыі да пальшчызны і афіцыйнага "западно-руссизма", жывіліся самой беларускай глебай і адлюстроўваліся на прафесійным узроўні найперш у гістарычнай літаратуры. "Гістарызм" быў на той час адзіна магчымай формай праявы нацыянальнай свядомасці пры адсутнасці нацыянальнай філасофіі і зародкавага стану класічнай літаратуры.

Іншы, звернуты ў практычна-палітычны бок характар мела ідэалогія беларускай фракцыі народнікаў, створанай студэнтамі Пецярбургскага універсітэта восенню 1881г. Гэта была першая нацыянальная палітычная арганізацыя, якая ўзнікла на хвалі агульнарасійскага рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху. Гоманаўцы ўпершыню загаварылі пра беларускі народ не ў гісторыка-этнаграфічным, а ў сацыяльна-прававым сэнсе, як народ, здольны развіць свае сілы і тварыць самастойнае жыццё. У сваім тэарэтычным органе — часопісе "Гоман" — беларускія народнікі ўпершыню выказаліся пра неабходнасць фармавання нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, пра ролю інтэлігенцыі ў прабуджэнні народа. У адозве "Да беларускай моладзі" ёсць усведамленне гістарычных крыўдаў свайго народа, прычын стратаў ім сваіх інтэлектуальных сіл і ўпэўненасць, "што і наш народ, як і ўсялякі іншы, мае задаткі і законныя правы на выбранне сябе самастойным і раўнапраўным членам агульнай федэрацыі славянскай сям'і". Абгрунтаванне гоманаўцамі права беларусаў на сваю дзяржаўнасць і культуру цесна звязвалася з усведамленнем беларусамі свайго нацыянальнага "Я", бо "без усведамлення сваёй асобы кожным чалавекам народ быў бы статкам; без усведамлення сваіх асаблівасцяў кожным народам такім статкам было б усё чалавецтва. Гісторыя чалавецтва заключаецца менавіта ў тым, што з першапачатковай абыякавасці дзікіх народаў паступова выдзяляюцца **асобы народаў**, гістарычна цывілізаваных". Падтрымліваючы прынцып федэралізму, беларускія народнікі падкрэслівалі, што якраз "асаблівасці і могуць служыць зарукай будучага шырокага развіцця часова падаўленай народнасці, у якой рана ці позна прабудзіцца народная самасвядомасць". Гоманаўцы сцвярджалі, што беларускі народ ужо ўсведамляе свае нацыянальныя інтарэсы, адрозныя ад польскіх і велікарускіх, адчувае сваю арганічную цэласнасць і адзінства.

Гістарычная публіцыстыка "Гомана" знаменавала пачатак новага этапа ў развіцці нацыянальнай самасвядомасці, звязанага са спробай тэарэтычнага асэнсавання паняццяў нацыі, нацыянальнай ідэі, з наданнем ім палітычна-прававога афармлення.

Далейшае развіццё гэтай традыцыі адбывалася ва ўмовах беларускай дзяржаўнасці — у часы БНР, у БССР і ў Заходняй Беларусі і вымагалася задачамі непасрэднага дзяржаўнага будаўніцтва. Фабіян Шантыр, загадчык Смаленскага аддзела Белнацкома, у працы "Патрэбнасць нацыянальнага жыцця для беларусаў і самаадзначэнне народу" (1918), вызначыўшы прыкметы нацыі — духоўныя (мова, звычаі, гістарычнае мінулае, вера) і прыродныя (рэльеф, клімат, уплыў суседзяў) — шукае тое нябачнае звяно, што лучыць усе гэтыя прыкметы ў адно цэлае. Ім, на думку аўтара, з'яўляецца нацыянальны інстынкт. "Інстынкт нацыі, — зазначае ён, — гэта той магучы звязак, што застаўляе кожнага чалавека з няўясненай сілай цягнуцца да "свайго". У людзей маласвядомых нацыянальны інстынкт выліваецца ў незалежным ад волі групаванні там, дзе ёсць "сваё", "роднае" — зямля, мова, дзе жывуць яму падобныя. Для свядомых нацыянальны інстынкт выражаецца ў асмысленай любові да "свайго"... у праўдзівым высшым патрыятызме". Ф. Шантыр аддае перавагу аб'ектыўным прыродна-біялагічным нацыятворчым фактарам, думаецца, з мэтай умацаваць у тых канкрэтных нялёгкіх умовах веру беларусаў у свае сілы на шляху нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва: "Нацыя, маючы пад сабой нязменны грунт, пакуль гэты грунт не змяніўся, не можа перарабіцца ў другое,.. змяніць свой воблік ці вымерці", — падкрэсліваў ён.

Паўнавартаснае грамадскае быццё Ф. Шантыр бачыць толькі як быццё нацыянальна свядомае; нацыянальную свядомасць ён разглядае як духоўную лучнасць нацыі: "Свядомасць свайго краю, усяго свайго роднага, свядомасць поступу свайго нацыянальнага "Я" — гэта найважнейшая патрэба ўсяго народа, гэта той штодзённы яго духоўны хлеб, без каторага ён, як народ, дастойна жыць не можа". І далей заключае: "Толькі народ свядомы... становіцца раўнапраўным сябруком у сям'і народаў свету".

Грамадскія і культурныя дзеячы "віленскай школы", адцягнутыя мяжой ад канкрэтнай працы ў нацыянальным доме, таксама ў сваіх навукова-публіцыстычных працах значную ўвагу ўдзялялі нацыянальнай праблематыцы. Аналізуючы розныя прыкметы нацыі, Т. Вароніч (псеўданім Тадэвуша Урублеўскага, віленскага адваката) прыходзіць да высновы, што адзінай істотнай адзнакай народа з'яўляецца яго нацыянальная свядомасць і культурная еднасць, а этналагічныя прыкметы не маюць асаблівага значэння. Разглядаючы фактары, якія ўплываюць на развіццё нацыянальнай самасвядомасці, аўтар адзначае, найперш, супольнасць культурнага і эканамічнага жыцця, прычым у эканамічнай сферы — не толькі супрацоўніцтва, але і канкурэнцыя на ўнутраным рынку. Пра патрыятызм, як вышэйшую праяву нацыянальнай самасвядомасці на ўзроўні пачуццяў, аўтар зазначаў наступнае: "Як рэлігійным жыццём з'яўляецца зліццё з Богам праз любоў да Бога, так жыццём патрыятычным ёсць зліццё з народным духам праз любоў да бацькаўшчыны".

Неабходнасць эканамічнага грунту для паспяховага нацыянальна-культурнага адраджэння пераканаўча паказаў Антон Луцкевіч, у той час старшыня Віленскай Беларускай Рады. "Без уласнасці і зямлі, — падкрэсліваў ён, — няма пачуцця чалавечага, а калі яго няма, то як можа зарадзіцца свядомасць нацыянальная?" І далей: "Нацыянальную свядомасць нельга аддзяліць ад свядомасці правоў чалавека і грамадзяніна. Яны так цесна звязаны, што калі будзіцца адно, яно неадступна будзіць і другое, — а ў той жа час, дзе няма свядомасці нацыянальнай, там няма месца і для чалавечай гордасці". Лагічным працягам гэтых разважанняў стала выснова пра здабыццё незалежнай дзяржаўнасці, ва ўмовах якой толькі і магчыма забяспечыць эканамічны фундамент пад будучыню Беларусі.

Асобнае месца ў адраджэнскай літаратуры 1920-х гадоў займаюць літаратурна-філасофскія эсэ Ігната Абдзіраловіча (Канчэўскага) і Сулімы (Уладзіміра Самойлы). Вызначыўшы сутнасць беларускага шляху (ідэі) як "ваганне паміж Захадам і Усходам і шчырая непрыхільнасць ні да аднаго, ні да другога", Абдзіраловіч гаворыць пра нацыянальную тоеснасць, адэкватнасць беларусаў. Чужыя ўплывы "гвалцілі душу беларуса, толькі прымушаючы яго ўбачыць, што ў чужой скуры заўсёды дрэнна, што трэба вытвараць нешта сваё, роднае, блізкае, арганічнае. Тыя, што змагаліся за душу беларуса не ўцямілі, "што разам з беларушчынай мы трацім і лепшую частку чалавечнасці". Амаль тымі ж словамі гэта пацвярджае і У. Самойла: "Знічтожце маё беларускае "Я", пазбаўце мяне ўсялякага "пачуцця сілы", усялякага жыцця, — і вы знічтожыце і ўвесь мой беларускі, і ўвесь мой агульны сусвет".

У. Самойла падняў тэму беларускай ідэі і самасвядомасці на ўзровень рэлігійна-філасофскага асэнсавання. З вышыні свайго духоўнага досведу ён убачыў сілу народа ў аб'яднанні "ў Духу", што дае "іскру жыццядайнага аптымізму, без якога нямашака ні магчымасці, ні сэнсу, ані жыць, ані перамагаць у жыццёвай барацьбе". Жыццёвы аптымізм складае сутнасць хрысціянства. Як казаў Спіноза: "пачуццё радасці ёсць суб'ектыўнае адбіццё ў нашай свядомасці аб'ектыўнага факта росту і расшырэння нашае душы, развіццё ў нас часткі жывога Бога", таму, заключае У. Самойла, "толькі сапраўдны Бог жывое актыўнасці і творчага аптымізму, толькі гэтая праўдзівая рэлігія святла і радасці захаваюць беларусу яго асабістае і нацыянальнае "Я"... Словы аўтара гучаць як малітва за беларускі народ: няхай "промень сонейка прыйдзе зверху, няхай жыватворная благадаць гэтага сапраўднага Духа Божага агністымі языкамі сыдзе на галовы беларускага народа..."

Магутным будзіцелем духоўнай еднасці з'яўляецца, на думку аўтара, нацыянальнае пачуццё і нацыянальная ідэя. "...Ужо самім фактам нацыянальнага самапачування, фактам усведамлення кожным асобным "я" сваёй арганічнай адзінасці з вялікім нацыянальным "Я" крытычна-трывала ўзвышаецца жыццёвы аптымізм у загнаным, панурым дагэтуль народзе". Такі спаяны сувяззю нацыянальнага пачуцця народ прадстаўляе ў жыццёвай барацьбе непараўнальна вялікую сілу, чым народ, які з'яўляецца... толькі этнаграфічнай масай". Такое разуменне дыялектыкі Божага і чалавечага ў дапасаванні да нацыянальнага сапраўды, як сведчыць вопыт еўрапейскай гісторыі, сілкуе народ жыццёвым аптымізмам, верай у сваё высокае прызначэнне, у раўнапраўнае становішча сярод народаў.

Тэма ўплыву хрысціянства на беларускую нацыю была працягнута (але ў іншым, гістарычным плане) Адамам Станкевічам у працы, напісанай у 1940 г. да 950-годдзя хрышчэння Беларусі. Зыходзячы з прынцыпаў хрысціянства, якое дае права кожнаму народу на сваё нацыянальнае жыццё, але асуджае нацыянальны эгаізм, А. Станкевіч разглядае ўплыў рэлігіі на беларускую гісторыю. "...Хрысціянства, як рэлігія, лучыла і яднала беларускія плямёны ў адно цэлае і нацыянальна асобнае, вытвараючы супольную ў народзе веру, погляды, традыцыі, культуру, супольную народную душу... сягаючы да душы народу, вытварала і закрапляла нацыянальныя, вядомыя толькі беларусам асаблівасці". Сапраўды, рэлігійная ідэя была, відаць, адным з першых аб'ядноўваючых фактараў беларускай нацыі. На думку аўтара, у першыя стагоддзі існавання на беларускіх землях ён быў мацнейшы нават за "дзяржаўную супольнасць".

На ўзроўні індывідуальна-псіхалагічным А. Станкевіч бачыць ролю хрысціянства ў тым, што яно творыць "глыбокі духовы кантакт у народных чуццях, які часта нясведама падтрымлівае і творыць нацыянальнае пачуццё..."

Разглядаючы ролю праваслаўя, каталіцызму і уніі на розных этапах беларускай гісторыі, А. Станкевіч падымаецца над канфесійнымі спрэчкамі і ў залежнасці ад эпохі аддае належнае кожнай з іх. З яго разважанняў вынікае, што нацыянальная ідэя і нацыянальная самасвядомасць — з'явы надканфесійныя. Аўтар засцерагае ад фармальнага аб'яднання канфесій, ён заклікае ў практычнай дзейнасці больш увагі звяртаць на тое, што аб'ядноўвае, што лучыць у хрысціянстве, шукаць гармонію ў нацыянальным і рэлігійным.

Як сведчыць гістарычны вопыт, фармаванне нацыянальнай самасвядомасці — гэта складаны і супярэчлівы працэс, які адбываецца на двух узроўнях — тэарэтычным і побытавым. Нацыянальная ідэя, нацыянальная еднасць усведамляецца спачатку на індывідуальным узроўні найбольш перадавой, адукаванай часткай грамадства — інтэлігенцыяй. На ёй ляжыць адказнасць за стварэнне на грунце навуковым і ў прафесійнай культуры нацыянальнай ідэалогіі, абаснаванне гістарычнай місіі і гістарычнага шляху народа. Беларускія адраджэнцы XIX — пачатку XX ст. заклалі першыя падваліны гэтай нялёгкай працы, якая чакае свайго працягу і лагічнага завяршэння.

**7 лістапада ў "ЛіМе" пад рубрыкай "Шляхі" быў змешчаны артыкул доктара філасофскіх навук Міколы Крукоўскага "Запаліць святло ў душах...". Змест яго пэўным чынам раскрываўся ўжо ў падзагалоўку: "Рэальнасць і грамадскі ідэал у сучаснай Беларусі". Так, гаворка ў ім ішла менавіта пра значэнне і ролю ў жыцці народа грамадскіх ідэалаў, якія выяўляюцца найперш у нацыянальнай ідэі. Пазней, у двух наступных нумарах штотыднёвіка, гаворку прадоўжыў пэўным чынам прафесар Леанід Лыч у артыкуле "Нацыяналізм". У кантэксце гэтай размовы — і артыкул Лідзіі Кулажанкі, які друкуецца сёння.**

## Зноў выдадзена ў Горках

**Чытачы "ЛіМа", пэўна, памятаюць, што летась прайшлі Першыя міжнародныя Гарэцкія чытанні. Мне прыемна паведаміць аб тым, што ў Горках выйшлі з друку даклады і паведамленні, што прагучалі на іх. Кніжка змяшчае 94 выступы літаратуразнаўцаў, лінгвістаў, педагогаў, музейных супрацоўнікаў не толькі Беларусі, але і Масквы, Санкт-Пецярбурга, Польшчы. У прадстаўленых матэрыялах разглядаюцца шматлікія пытанні жыцця і творчасці М. Гарэцкага, метады выкладання яго твораў у ВНУ і школах.**

**Па пытаннях набыцця кнігі звяртацца ў Горацкі гістарычна-этнаграфічны музей па адрасе: 213410, Магілёўская вобл., г. Горкі, зав. Якубоўскага, 2, ці па тэлефоне 2-34-87 (код Горак 8-233).**

**М. СТУДНЕВА,**
**навуковы супрацоўнік Горацкага музея**

## Успомнілі сатырыка

**90-годдзю з дня нараджэння Міхася Скрыпкі прысвячалася літаратурная сустрэча, што прайшла ў Мінскім энергетычным тэхнікуме. Пра гэта расказала бібліятэкарка Раіса Майсеенка. Творы М. Скрыпкі прачыталі студэнты. А госці — пісьменнікі Рыгор Яўсееў і Іван Курбека ўспомнілі сустрэчы з Міхасём Аляксандравічам, прачыталі свае гумарыстычныя вершы.**

**Людміла КОЛЬЧАНКА,**
**бібліятэкар тэхнікума**

## Мар'іна Горка — імя паэтычнае

**У апошнія гады досыць актыўна выходзіць да чытача са сваімі новымі творамі паэт Алесь Пісарык. Яго вершаваныя зборнікі, выдадзеныя ў прыватных мінскіх выдавецтвах, прадстаўлены чытачу зычлівымі прадмовамі С. Законнікава і В. Гардзея.**

**У гонар паэта-земляка ў Мар'інай Горцы быў наладжаны літаратурна-мастацкі вечар. Паэта віталі мастацкі калектыў "Ярыца", артысты славутага жыновічаўскага калектыву, эстрадны спявак Якаў Навуменка. Цёплае слова пра А. Пісарыка сказаў старшыня Пухавіцкага райвыканкама Фёдар Супрун. Вечар, які прайшоў у раённым Доме культуры, сабраў паўнюткую залу ўважлівых да культуры, да паэзіі людзей. Яно і не дзіўна. У Мар'інай Горцы працуе літаратурнае аб'яднанне. Мясцовая друкарня выдае кніжную серыю "Паэты Пухаўшчыны". Ужо пабачылі свет кнігі Вольгі Савасцюк і Рыгора Папара, падрыхтаваны да друку вершы Уладзіміра Рунцэвіча, Аляксандра Пікуліка.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

## Калі ласка, на імпрэзы ў ДЛ

**Снежаньская афіша Дома літаратара адкрываецца 8 снежня літаратурна-мастацкай вечарынай да дня нараджэння М. Багдановіча "Мне доўгае расстанне з Вамі...", якая пачнецца ў 18 гадзін.**

**У гэты ж час 17 снежня адбудзецца прадстаўленне паэтычнага тэатра "Зніч" з А. Атаманавым — "Тут, на Беларусі", а 22 снежня — прэм'ера дакументальнага фільма "Дыярыюш наваградскі" (да 200-х угодкаў А. Міцкевіча).**

**У 19 гадзін 12 снежня пройдзе сустрэча маладых беларускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў.**

**Запланаваны чарговыя пасяджэнні секцый: паэзіі — 11 снежня, крытыкі і літаратуразнаўства — 15 снежня, прозы — 18 снежня, літаратуры для дзяцей і юнацтва — 22 снежня.**

**Пачатак згаданых мерапрыемстваў — у 15 гадзін.**

●

**А 11 снежня ў 17 гадзін у памяшканні Таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі можна папрысутнічаць на вечарыне славацкай паэзіі "З берагоў блакітнага Дуная".**

ВІНШУЕМ!

# Шлях у неабсяжнае

ВЯЛІКАЯ сусветная сувязь з'яў і рэчаў... Не тая сувязь абставін атачэння і лінейнага часу, што падпарадкоўвае сабе чалавека абыдзённай свядомасці, не прыватнае ўзаемаспалучэнне ўчынкаў і падзей, не эмпірыка жыццёвага шляху, а выснаваны асабовасцю і адметнасцю творцы перагук з неабсяжнасцю светабудовы, з пазасветным (запредельным), з глыбінямі пазнання і эзатэрычнымі вышынямі сусветнай думкі.

Менавіта гэтая сувязь адчуваецца ў творчасці Алеся Разанава. Менавіта такія каардынаты быцця пазначыў ён сабе. Хаця — пазначыў — не зусім дакладна. У творцы гэтага складу адчужанасць, адстароненасць духу даюць такую волю выяўлення і самавызначэння, што часам яны атаясамліваюцца з поўным адстараненнем асабістай волі ў творчасці, калі факт пазнання і чыннік дзейснасці сыходзяцца ў адным стваральным моманце. Калі мастак — не толькі суб'ект, што выконвае нейкае дзейства, але і аб'ект, рухомы моцай свайго дару. Памятаеце, у фільме Формана "Амадэус" ёсць такі эпізод: цешча распякае Моцарта, той спачатку слухае яе, а потым у галаве яго ўзнікае вірлівая арыя. І ён чуе толькі яе, арыю.

Прырода дару А. Разанава, безумоўна, зусім іншая — калі згадваць вяршыні, ён бліжэй да Гегеля ці Баха, аднак гаворка не пра тое: пра сутнасць творчага выяўлення. Выяўлення, для якога ўласцівы не эмпірычны, а розумаспасцігальны характар засваення рэчаіснасці. А суадносіны паміж гэтымі формамі засваення, паводле Канта і Шапенгаўэра, павінны адпавядаць адносінам свету вопыту да свету магчымага. І гістарычная рэчаіснасць у лінейным часе ніколі не выяўляе эпоху так, як гэта дадзена тварэнням духу. А якія б драмы ні адбываліся на падмосцях сусветнай сцэны, гэты творца застаецца залежны не ад гістарычных сюжэтаў і фабул, а ад схем касмічных эпох.

Калі не безумоўна, дык хутчэй за ўсё, А. Разанаў ніколі не будзе тым паэтам, якога чытаюць шырокія масы, але станецца — стаўся — праявай духу, што пазнавальная і вызначальная для тых, каму наканавана адчуваць увасобленую ў мастацкай тэкстуры волю Творцы сусвету. Для тых, хто шукае Ісціну, для каго мастацтва, Art — вышэйшае празарэнне, а паэзія — спасціжэнне свету праз спазнаванне чалавека, далучэнне да сусветнай таямніцы. У сваёй Айчыне і за яе межамі.

Зазвычай прынята, ведучы гаворку пра А. Разанава, пазначаць рэзкі паварот у яго творчасці, падмацоўваючы думку словамі паэта: "перакрэсліць і нанава пачаць". Мне ўжо даводзілася згадваць — А. Разанаў сапраўды ўвесь час шукае спосабы свайго быційнага, свядомаснага і мастакоўскага выяўлення. Аднак — у рэчышчы сваіх філасофскіх і паэтычных прынцыпаў. Яго цікавіць сэнс рэчаў, рэчываў і з'яў, іх магутная і адчужаная сутнасць. Ён не бярэ ў разлік не толькі паэзію дыдактычную, гістарычную і этычную (тое, што можна распавесці прозай), але і паэзію чыста лірычнага кшталту, дзе эмпірычнае пазнанне спалучаецца з эмоцыямі і гармоніяй класічнага вершаскладання.

Ад самага пачатку А. Разанаў рыхтуе прарыў у іншыя вымярэнні, салідарызуючыся з творцамі, што высвечваюць патаемныя нетры сутнаснага. Так, яшчэ рыфмаваны радок, паводле ўсіх канонаў рэгулярнага верша. Аднак — не ад маладога наіву або стыхійнага пачуцця ці выштукаванай фантазіі. Моўленае — хутчэй ад навукі, ад законаў фізікі: "І білі звонкія ранеты, Па выпадковай галаве. А адкрыццё брыло начамі Пад гонам рэчак і асін У выпадковасці адчайнай Невыпадковае зусім".

Знешне тут нібыта няма адкрытага выкліку Арыстоцелевай выснове "прыпадабнення прыродзе", што стагоддзі лічылі адзіна магчымым мастацкім законам для літаратара, мастака, кампазітара. Ды і А. Разанаў, зразумела, у 70-я гады XX стагоддзя быў ужо далёка не першы, хто парушыў класічныя каноны. Ад канца XIX — пачатку XX стагоддзя складана нават пералічыць творцаў, што так званы рэгулярны верш лічылі толькі адным з магчымых. Вольны верш, белы, версэт, верш у прозе — варыяцый безліч. Безліч і творцаў — Шарль Бадлер, Арцюр Рэмбо, Блэз Сандрар, Гіём Апалінэр, Велімір Хлебнікаў, Сальваторэ Квазімода, Нурдаль Грыг... Пералік можна доўжыць і доўжыць...

З А. Разанавым, дарэчы, адбылося тое, што здаралася з многімі творцамі. Яго абвінавачвалі ў несамавітым праходжанні даўно зведанага еўрапейскімі літаратарамі, у зламыснай нетрадыцыйнасці (маўляў, беларускай літаратуры не ўласцівы такі стыль мыслення і пісьма), у вандраванні па цёмных лабірынтах і закутках хворай свядомасці. (Гісторыі літаратуры гэта вядома — згадаем хаця б творчы лёс "праклятых" паэтаў, закіды Буніну ў перайманні Тургенева, паралы Чэхаву мець за ўзор Патапенку, трагічную лінію шляху Хлебнікава...).

Сёння ў А. Разанава вызначыліся не толькі быційныя каардынаты, але і каштоўнасныя значнасці творчага і жыццёвага накірунку. Вядомы паэт, мэтр, пачынальнік пэўнай школы ў беларускай літаратуры (усё змяняецца — некалі яго незабыўны настаўнік Уладзімір Калеснік упэўнена гаварыў, праўда, трошкі ў іншым кантэксце: сам сабе школа, сам сабе напрамак), А. Разанаў — мысляр, філосаф, дзеяч Адраджэння, асветнік... Намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Крыніца", віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы... Перакладае ён, перакладаюць яго...

Згадаць тымчасовыя жарсці імкнуся не толькі таму, што А. Разанаў мае цвёрды характар — выстаяў, перамог. Не толькі таму, што яго падтрымалі самыя розныя літаратары і дзеячы культуры, чытачы — найбольш мастакі, навукоўцы, студэнты, што ў падтрымку паэта наладжваліся імпрэзы, і змястоўныя.

Мелася адбыцца вось тое неадпрэчнае, вызначальнае — пра што вялася гаворка напачатку: як творца ён падпарадкаваны Вышэйшаму Інстынкту (Наитию), яго літаратурнае быццё выснавана ім, але і шчасліва залежнае ад яго духоўнага, мастакоўскага складу.

Накірунак сваёй творчасці А. Разанаў пазначыў адразу. Створанае — павінна быць тоеснае асобе. А асоба — згадаем — глыбокая, шматаблічная. Асоба, у якой крытычны розум спалучаны з паэтычным дарам, разлік — з містыкай, нюансіроўка здагадак з жорсткай інжынерыяй дакладнасці.

Вызначальным і неадменным стаўся для творчасці А. Разанава і нацыянальны аспект. Але гэты нацыянальны аспект мае на ўвазе знаходжанне ў кантэксце еўрапейскай, у кантэксце сусветнай літаратуры.

Калі мы прасочым шлях А. Разанава — пазначым мноства эксперыментаў, ад творчай супольнасці думкі, выявы і слова — разам з мастаком Віктарам Маркаўцом да перастварэння паэтычных тэкстаў Веліміра Хлебнікава і Надзеі Артымовіч на мову сваіх уяўленняў, аднак заўсёды заставалася глыбінная, сталая зацікаўленасць нацыянальным, беларускім. Ад волескіраваных, пазбаўленых механікі эфектаў згадак пра Максіма Багдановіча, Цётку, Лазара Богшу ў "Каардынатах быцця" і "Шляху-360" і ўтварэння традыцыйна-нетрадыцыйных постацяў Тэклі і паляўнічага Сурмача (тамсама) да пераствaрэння старапольскіх і старабеларускіх тэкстаў Мялеція Сматрыцкага, Васіля Цяпінскага, Францішка Скарыны, Кірылы Транквіліёна-Стаўравецкага на сучасную беларускую мову і пазначэння словам месца і

*"Малы курэц." 1951*



*Настаўнік беларускай мовы і літаратуры Кругельскай школы. 1971*



*У выдавецтве "Мастацкая літаратура" з Наталляй Давыдзенкай, Верай Палтаран і Іванам Грамовічам. 1982*

значэння ў беларускім свядомасным і культуровым абсягу Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча і іншых.

Арганічнае існаванне беларускай думкі і слова ў еўрапейскай і сусветнай культуровай супольнасці А. Разанаў найперш даводзіць сваім уласным паэтычным вопытам, а таксама перакладамі — найбольш блізкіх яму па стылі мастацкага мыслення паэтаў: Чэслава Мілаша, Басё, Ёжэ Удовіча, Эльке Эрб, Улдыса Берзіньша, Марцэліуса Марцінайціса, Сігітаса Гяды і інш. І безумоўна, практыкай існавання часопіса "Крыніца", дзе мяжуюць творы старадаўнія і сучасныя, замежныя і беларускія, дзе падаецца своеасаблівая панарама існавання і суіснавання літаратур.

***Хачу спасцігнуць сэнс***
***Нябыту і быцця і прызначэння, —***
абвясціў некалі ў "Паэме жніва" (зб. "Каардынаты быцця") А. Разанаў. Прызнанне досыць адкрытае і патрабавала падмацавання вопытам. І паэт вызначае каардынаты існавання: "Наблізілася рэчаіснасць, узноўленая праз мяне", "Няўжо рэчаіснасць — толькі дрэвы і небасхіл, замкнёныя кругазваротам". Не, гэта "назыўны" свет відавочнага, берагі чалавечага светаўспрымання — толькі сыравіна назіранняў, дакументальна-інфармацыйная зрокавая рэальнасць. Гэта аднalінейны і аднанакіраваны свет, законы якога цікавыя А. Разанаву толькі побач з іншымі, з касмічным самаажыццяўленнем жыцця, з метафізікай існага, з мудрым наканаваннем нябёсаў.

"А там... як мог яго раней не заўважаць я, чаму не заўважаў яго раней?! — свяціўся незнішчальны голас Сэнсу..." А. Разанаву сямідзесятых гадоў чуўся не толькі "голас Сэнсу", паэт улоўліваў пазыўныя рэчаіснасці, часам нават публіцыстычна канкрэтна: "экскаватарнае нашэсце", "рассякаюцца краявіды, выпрамляецца кожны штрых", "у балоце глухім валхвуе экскаватаршчык Абравец", хаця паэт імкнуўся перавесці мову вершаванай дакументалістыкі на мову філасофскага роздуму: "Наганяючы небыццё, навастрыліся аэрадромы...", "Сітуацыя разбурэння", "Як пакутна ісці па сапраўднасці".

Сапраўднасць выяўляецца вопытам перажыванняў, якія, аднак, не вынікаюць лірычным сэнсавыпраменьваннем, рухі душы выяўляюцца напружаным рытмам свядомасці: "Я прагнуў дасканаласці тваёй, адданасці тваёй, адданасці — не мне: ідзі... тайне... — якую у вачах тваіх чытаў..." І далей: "... у зялёна-жаноцкай вёсцы расце дзяўчынка, мая вучаніца, расце, пакідаючы: не застане... к чаму вяртаецца — не застане... І так глядзяць вочы блакітна, быццам са смерці, на вольнае ззянне плыні..."

Каб выратавацца, трэба пашырыць межы свядомасці, зірнуць на свет у іншым ракурсе. Інакш непазбежны такі трагедыйны варыянт: "Мёртвыя зоры звалены ў лабірынце. Цёмна і страшна. Малітвы спазняюцца". І несупынна вярэдзіць пытанне: "Кім я ёсць?! І кім не ёсць?!" Класічная антыномія ад першасутнаснай быційнай няўхільнасці. Дарэчы тут згадаць, што А. Разанаў, безумоўна, глыбока і творча займаўся філасофіяй: і антычнымі школамі, і старажытнаўсходнімі вучэннямі, і класічнай нямецкай філасофіяй, і філасофскай думкай часоў Класіцызму і Асветніцтва ў Францыі і Англіі, і сучаснымі філасофскімі плынямі (маю на ўвазе XX стагоддзе)... Меў схільнасць да ідэй Рэрыха... Падобна, заўсёды меў у сваім інтэлектуальным і пачуццёвым вопыце Біблію. Сцвярджаю гэта — перш-наперш паводле яго творчых учынкаў і прыхільнасцяў, а таксама з пэўнага ведання кругу чытання А. Разанава ў нейкія перыяды яго жыцця: шляхі нашы перасякаліся і на працы ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" (працавалі ў адной рэдакцыі), і ў бібліятэках (давялося неяк амаль адначасова чытаць на польскай мове Кіркегора, якога przetozyt z dunskiego не больш і не менш, як Яраслаў Івашкевіч). Некалі А. Разанаў меў на мэце і прафесійныя заняткі філасофіяй; тут наша навука шмат згубіла, затое набыла літаратура. Зрэшты — і навука таксама.

А паэт Алесь Разанаў і мысляр Алесь Разанаў замест таго, каб ствараць катэгарыяльныя каркасы вучэнняў у чыстым выглядзе або высноўваць чыстыя канцэпцыі, ён, як большасць творцаў нашага стагоддзя, задумваецца над спрадвечнымі чалавечымі пытаннямі, над самавызначэннем асобы ў свеце, над надсветна-сакральным засяроджаннем сэнсаў сусвету — словам, па-філасофску не выкрышталізаваным, мройліва-шматзначным, адчуваючы сябе вольна ў духоўнай прасторы часу. "Пайшоў адзін, але не адзінокі", "Я той, хто шлях і хто па ім ідзе", "Я не адзінокі, Я адпаведны...", "Час завязаўся ў паўтор", "У снега прысмак тугі; ён мамаю асаблівы. Ён асаблівы мной: блукаю ў яго завеі...".

А. Разанаў карыстаецца словам. Адчувае ён яго шматзначна, шматгранна, імкнецца вылушчыць са звычнага семантычнага і фанетычнага раду, адчуць яго ў патаемнай сувязі псіхічных і слыхавых раздражняльнікаў, у спалучэнні гукаў і сэнсаў, выявіць у ім нейкую асобую сістэму, якая можа ствараць паэзію. Ён імкнецца раскрыць у слове яго патаемныя магчымасці, адгадаць, адчуць сутнасныя аналогіі. Гук — і Думка, Думка — і Сэнс Гука.

І паэт аддае перавагу магіі слова, а не чару яго, не чароўнасці гучання. (Нездарма А. Разанаў так пільна цікавіўся фальклорам, чарадзейным уплывам замоў). Адзін з яго твораў так і называецца — "Вучань чараўніка": "Не ўтрываўшы, я адгарнуў наступную старонку... ("Ліхнаэль, Весмалон, Германшур, Мэмрагай... — я чытаю, спяшаюся, няўцямныя словы-імёны той старой таямнічай кнігі, якую на часіну даверыў мне мой настаўнік... А на дварэ раптам цямнее, як пры змярканні... Я баюся таго, што ведаю. За вокнамі маёй свядомасці цёмныя крыкі".

Аднак найперш А. Разанаў усё ж імкнецца да засяроджанасці Ісціны і стрыжнявога Сэнсу, спрабуе суаднесці яго, гэты сэнс, з асабіста-быційным.

"Па крутой, стромкай лесвіцы я ўздымаюся ўсё вышэй і вышэй, каб дасягнуць нарэшце той апошняй, той завяршальнай прыступкі, з якой можна было б рынуцца ў неабсяжнасць —
***і апярэдзіць самое жыццё,***
***і апярэдзіць самую смерць...***
***Колькі прыступак я ўжо мінуў?***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вышэйшы за дрэвы, вышэйшы за гнёзды, вышэйшы за воблакі, вышэйшы за вышыню, — я слухаю-чую, як мне паўтарае ўпарта мой пакінуты ўнізе двайнік:

"Вяртайся!"

Прыступка апошняя тут.

У неабсяжнасць трэба ўздымацца адгэтуль".

У неабсяжнасць паэт хоча ўздымацца, спазнаўшы пераўвасабленні ўспрымаючай свядомасці. Прыроду рэчаў. Прыроду рэчываў.

Ён не спыняецца на першаэлементах: вада, паветра, агонь, зямля. Яго ўяўленне ўвесь час вярэдзяць дзве праявы матэрыі: гліна і камень. Яшчэ ў даўніх яго творах мы сустрэнем гэтыя згадкі: А на дошцы — выразныя літары, і ўсе сэнсы і ўсе бяссэнсіцы — быццам лялькі адна ў адной, і замешана гліна, каб вылепіць творцу..." ("Паэма незавершанага сказа") або "дзе пуста было — ўзышлі камяні" ("Паэма палявання"). І, мабыць, тут і ключ да адгадкі: "гліна, каб вылепіць творцу..." Паэта цікавяць тыя праявы матэрыі, што маюцца быць матэрыялам творцы: ганчара, скульптара, архітэктара... І больш глыбінна — насельнікаў быційнага "сабору".

А. Разанаў спрабуе высветліць — ці падуладна канкрэтнаму ўвасабленню тое, што не ўвасабляецца? Матэрыя ствaральнага... Матэрыял творцы... Нездарма ж ва ўсіх, здаецца, еўрапейскіх мовах творца-мастак мае тое ж найменне, што і Перша-Творца. І вечная таямніца, што ўвасоблена ў бясконцых варыяцыях Адстароненых Ведаў, якія месцяцца ў матэрыяле, што абавязаны стаць Сэнсавай Сітуацыяй, Сэнсавай Падзеяй. Розныя выяўленні. Розныя іпастасі. "Ніцма ляжыш І ў глыбокім сненні Хаваеш сваю душу. Загавару з табою — адкажаш, Але не пачуеш".

Раптоўныя асацыяцыі ідэй, унутраныя адчуванні і стыхійныя парывы, веды, што не залежаць ад уласнага вопыту, і назіранні, вольныя ад зрокавых выяў. Магчымыя аб'екты паэтычнага свету і формы перастварэння абстрактных думак. Адно і тое ж "Я", што ператвараецца ў розныя сэнсавыя фігуры ў залежнасці ад змены камбінацый слоў і гарманічных або дысанансных варыяцый гукапісу. "Захоўваешся ў цяні Усіх рэчаў І ўсіх істот І ў сабе Захоўваеш сэнс, Ім яшчэ невядомы".

Патаемная сувязь ідэй і слоў... Сістэмы сугуччаў, матэрыя слоў — і матэрыя паняццяў, законы і правілы — і выключэнні з іх. Інтэлектуальны свет XX стагоддзя. Ускладнены свядомасным і падсвядомасным веданнем, трывога перад прасторамі сусветнай бездані і разуменне розумаспасцігальных счапленняў прычын, вынікаў і мэт. І — нідзе — няма забабонаў "меркаванняў" абыдзённай развaжлівасці. Не ад высакамернасці — ад існавання ў пэўных паняційных пластах, ад адчування зямлі, вады, агню, прасторы, аднак ніколі — ад адчування заземленай жыццёва-будзённай глебы.

"Наблізілася рэчаіснасць, узноўленая праз мяне", "Цяпер я сам твару свой жыццяпіс", "вартаўнік лёсу" — таямніца асабістага, што праз розумаспасцігальную і сакральна непрадбачную ісціну імкнуцца да метафізічнай уладкаванасці сутнага, да мудрасці Боскага творцы. Выяўленне свайго невыпадковага месца ў прыродным і чалавечым распарадку, праўда маралі і этыкі, філасофія ведаў і няведання, спрадвечныя антыноміі быцця: "існуем знікаючы". Урэшце — метафізічнае асвячэнне Ісціны, сэнсавыпраменьваючая Ісціна — ад гэтага высновы мысляра і паэта Алеся Разанава. Кандэнсат думкі, імкненне калі не спасцігнуць, дык дакрануцца да звышразумнага наканавання: "Сабранае траціцца, І рэчаіснасць Разгортваецца ў здагадку, каб адшукацца З таго боку слоў.", "А тое, Што мусіць адбыцца з намі, Само настае І само вытлумачваецца", "Гліна тлумачыць пісьмёны Забытых тысячагоддзяў".



З мастакамі Віктарам Маркаўцом і Аляксеем Марачкіным. 1977



На Літаратурным калёквіуме ў Берліне з Вячаславам Адамчыкам. Трэці, за дрэвам, — Норберт Рандаў. 1991



З Прэзідэнтам Македоніі Кіра Глігоравым. 1992

Часам паэт чуйна пацвярджае "неўладкаванасць" і крохкую існасць, здавалася б, вельмі трывалага і надзейнага: "Попел абагульняе і ўраўноўвае ў правах усё, што вылучала і чаму спявала хваласпеў полымя і што палегаваў дым...", часам спадзяецца на каштоўнаснае апірышча духоўнай працы, ніколі не спадзеючыся на карысць злабадзённага "сёння" і "тут". "У левую руку мне даюць паражэнне, але ў правую я паспяваю ўзяць перамогу. Тады ў Правую руку мне даюць радасць, але я працягваю левую руку і бяру скруху... У мяне пытаюцца: хто ты? — і хочуць спыніць. Я не адказваю і не спыняюся. Засяроджанаю душою я намацваю дрогкую лінію сэнсу, па якой мушу ісці дарэшты".

А. Разанаў — геній самаспазнання, ён самавызначыўся і самавызначаецца: у сваіх паэмах, філасофскіх мініяцюрах, версэтах, пункцірах, квантэмах... Ён спасцігае свет — у маштабах — адвечна вечнага, у адстароненасці і набліжанасці чалавечых істот да быційнага лона, ва ўсемагутнасці быцця і небыцця. Зорка валхвоў-вешчуноў для яго заўсёды наперадзе...

Па-ранейшаму постаць А. Разанава ва ўсіх іпастасях і прыцягвае многіх, прымушае насцярожана не прымаць іншых. Будаўніцтва Сэнсу, пошукі Апошняга Сэнсу, быційная накіраванасць — яны заўсёды ўспрымаюцца складана, асабліва калі не пераўтвораны ў дактрыну і маюць загадкава-шматсэнсавую недамоўленасць. Але — гэта не перашкода да вызвалення ядра Ісціны са шкарлупіння бачнасцяў (кажимостей). "Прамудрасць праславіць сябе і сярод народа свайго будзе ўхвалена" (Сірах., 24, 1).

... Тым часам наблізілася дата ў календары — з тых, што адзначаюць. Дата Алеся Разанава... Але на шляху ў бязмежнасць календарны ўзрост не мае значэння, вечнасць абыякавая да звестак у пашпарце. У яе свае каардынаты...

**Ала СЯМЁНАВА**

*Фота з архіва А. Разанава.*

## Прапануе "Спадчына"

Пяты нумар часопіса адкрываецца раздзелам "Дзень Волі", у якім змешчаны артыкулы В. Захаркі "Галоўныя моманты беларускага руху" (урывак) і В. Гадлеўскага "З беларускага палітычнага жыцця ў Менску ў 1917—18 гг.".

"Страчаныя скарбы манастырскіх бібліятэк" — тэма выступлення Г. Запартыкі. А. Ліс ("Адраджэнская маладосць Міхася Машары" звяртаецца да пачатку творчага шляху вядомага паэта-рэвалюцыянера, друкуецца яго паэма "Валачобнае". Ёсць магчымасць пазнаёміцца з публіцыстыкай Л. Савёнка, што пашырае ўяўленне аб літаратуры і журналістыцы ў даваенны перыяд, — "Белай кнігай у справе нацыянальнага назову (выпуск І)", выдадзенай у Нямеччыне ў другой палове 40-х гадоў.

Змешчаны артыкул Я. Зямчонка "Бароны Тызенгаўзы ў гісторыі Паставаў", урывак з незакончанай кнігі В. Шаблюка "Бераг майго роду" (слова пра заўчасна памёршага сябра прамаўляе У. Арлоў), успаміны Я. Кіпеля "БАМ", "Баркулабаўская хроніка", іншыя матэрыялы.

## Юбіляра віталі ў Купалавым доме

Дзяржаўны Літаратурны музей Янкі Купалы працягвае цыкл мерапрыемстваў "З Купалам у сэрцы". Пачатак праграмы быў прымеркаваны да 115-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы.

А 3 снежня ў музеі адбылася сустрэча, прысвечаная 60-годдзю паэта, публіцыста, драматурга, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, дырэктара выдавецтва "Юнацтва" Валянціна Лукшы. Юбіляра віншавалі Алесь Савіцкі, Уладзімір Карызна, Віктар Гардзей, Сяргей Панізнік. На вечарыне гучалі песні на словы В. Лукшы. Прагучала прэм'ера песні "Папяровы змей", якую выканаў аўтар музыкі Уладзімір Карызна-малодшы.

Вершы В. Лукшы чыталі дзеці, для якіх найперш і піша паэт.

Школьнікі, запрошаныя ў музей, змаглі азнаёміцца з кнігамі пісьменніка, выдадзенымі на розных мовах свету, а таксама з выданнямі Купалавай спадчыны, якія "Юнацтва" адрасуе дзецям розных узростаў.

Д. КАВАЛЕВІЧ

## З Беларуссю звязала вайна

Вядомы ўзбекскі пісьменнік Назармат (сапраўднае прозвішча Ігамнадзараў) у гады Вялікай Айчыннай вайны вызваляў Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З таго часу наша зямля стала яму роднай і дарагой. У пасляваенны час Назармат неаднаразова наведваў Беларусь, мае тут сяброў. Аўтар шматлікіх паэтычных і празаічных твораў, ён, пішучы ў асноўным на ваенна-патрыятычную тэму, часта вяртаецца да гадоў свайго баявога юнацтва. Беларусі Назармат прысвяціў вершы "Клятва", "Над магілай партызанкі", "У лясах Беларусі", "Каля Дняпра", "Рэха Хатыні", "Чаканне" і іншыя. Акрамя таго напісаў нарысы, успаміны, замалёўкі пра баявых аднапалчан, у якіх закранаецца і беларуская тэма. Назармат пераклаў на ўзбекскую мову асобныя вершы Я. Коласа, А. Куляшова, П. Броўкі, Р. Барадуліна. Яго, у сваю чаргу, на беларускую мову перакладалі Р. Барадулін і А. Бачыла. Нядаўна нашаму ўзбекскаму сябру споўнілася 80 гадоў.

●

80-годдзе сустрэў і вядомы казахскі паэт, крытык і літаратуразнавец Сагінгалі Сеітаў. Ён таксама вызваляў Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. І таксама ў сваёй творчасці шмат піша пра гераізм у барацьбе з акупантамі, услаўляе дружбу народаў. І не забываецца пра сваю другую Радзіму — Беларусь. У 1966 годзе С. Сеітаў прымаў удзел у рабоце V з'езда пісьменнікаў БССР. Ім напісаны артыкул пра творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, М. Танка. Беларуская тэма гучыць у вершах "Магілёў", "Балада пра пінскія балоты", "Брэст", "Канстанцін Заслонаў" і іншых, а таксама ў апавяданнях і нарысах "Паядынак", "Баян едзе да бацькі", "Вочы эскадрона"... С. Сеітаў перакладаў творы Я. Купалы і М. Танка, яго па-беларуску ўзнаўлялі В. Рагойша і У. Корбан.

ВІНШУЕМ!

# Аляксею РУСЕЦКАМУ — 85!

**Слыннаму паэту, лаўрэату Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова Аляксею Русецкаму — 85 гадоў. Зразумела, цяжар пражытага адчувальны, тым больш, што пражыта шмат. Тым не менш, гледзячы на Аляксея Сцяпанавіча, не скажаш, што ён даўно разменяў дзевяты дзесятак. А ўсё таму, што ўмее нязменна заставацца бадзёрым, жыццярадасным і на нягоды не звяртае асаблівай увагі, а выпраменьвае дабро, святло. Дарэчы, як і ў сваіх кнігах, а іх у юбіляра шмат — "У заўтрашні свет", "Святло акон тваіх", "Служба святла", "Крокі сэрца", "Хвала жыццю"... І пішацца новая, тая, якая пакуль на падыходзе да чытача.**

**З днём нараджэння, шаноўны Аляксей Сцяпанавіч! Жыць ды жыць Вам яшчэ — колькі Богам дадзена! А тварыць — колькі дазваляе Ваш яркі, самабытны талент!**

Аляксей РУСЕЦКІ



## Праўда матчыных слоў

### Не губляйма свае вышыні

*Мы высока жывём,*
*нашы рэкі цякуць з паднябесся,*
*у два моры цякуць*
*па схілах зямлі:*
*Сож і Нёман,*
*Лучоса, Бяроза, Бесядзь,*
*нашы гонкія сосны*
*мачтамі ў морах былі.*

*Блізу вечных і чыстых*
*нашых вытокаў*
*каменіцамі вежаў*
*узнесла Сафія крыжы,*
*звон яе кліча бачыць*
*зблізку й здалёку*
*злыбяду ўсёй Радзімы*
*і кожнай душы.*

*Тут сталеў, узвышаўся*
*розум Скарыны*
*думкі плённыя*
*з сонечнай сеяць сяўні,*
*ён жыве;*
*беларусы-вялікаліцвіны,*
*не губляйма нідзе*
*свае вышыні!*

*Светлым воблакам зноўку*
*ляціць над краінай*
*наш вяшчун, меч узняўшы,*
*на белым кані.*

### Веснавая рэфлексія

*На ружовым золку, з ласкі боскай,*
*вее ветрык веснавым цяплом;*
*завушніцы тонкая бярозка*
*пачапіла пад маім акном.*

*Мне цяпер туды б, дзе такавішча,*
*дзе буркуюць, стогнуць касачы,*
*дрозд манерай салаўінай свішча,*
*зачынае песеньку з начы.*

*У далёкай пушчы тое ранне,*
*не пачуеш гукаў тых нідзе,*
*там чаромха пра чыёсь каханне*
*зноў легендай белаю цвіце.*

*Там дагэтуль плюскае пад ёю*
*дробнай рыбкай вузкая рака;*
*дзед мой, пэўна, восеньскай парою*
*з дубальтоўкай паўз яе блукаў.*

*Прадзед Хведар зведаў птушку й звера:*
*лесніком свой адбываў прыгон,*
*апрача сякеры браканьера,*
*з пушчы больш не меў нічога ён.*

*Мабыць, знаўся з земляком Тарасам,*
*чарку разам у карчме піў,*
*чуў хвальбу, як лез той да Парнаса,*
*але ж неяк трапіў на Алімп.*

*І не скеміў гэта панскі служка,*
*хоць і госцем быў там дзень увесь,*
*бо не бачыў, як надаў папружкай*
*добры лад усім багам Зявес...*

*Любы сэрцу родны мне аповед,*
*змалку ім зачараваў Тарас,*
*прагнуў я мець сілу, чары слова —*
*не адолеў шлях свой на Парнас.*

*От Алімп... Калісь было — адразу*
*сігануць бы змог я на Алімп,*
*здатны, часам, і да лоўкай фразы —*
*толькі не фразёр, не падхалім...*

*Я заўжды не паважаў уладу,*
*што знішчала наша слова спрэс.*
*Позна ўспомніў дзедаву параду:*
*вартаваць красу зямную — лес.*

### Атавізм

Летась на Беларусі жыў 101 мядзведзь

*Не страляйце мядзведзяў —*
*да ўдавы з малымі*
*прыйдзе Мішка якійсьці*
*затым у прымы.*

*Касалапы айчым*
*перадушыць малых —*
*хоча ён неўзабаве*
*займець сваіх.*

*У суседзяў хлапчук*
*жыў, баяўся айчыма*
*з непрыязнымі чорнымі,*
*злымі вачыма.*

*Ён да дзеда ўцёк,*
*гадаваў яго дзед*
*і надзейна-дарослым*
*пусціў у свет.*

*Мабыць, ён і сказаў:*
*"Не страляйце мядзведзяў,*
*у лясах і ў вадзе*
*ашчаджайце суседзяў".*

### Балада пра давер і скепсіс

О люди, люди, стадо, стадо,
Я приучу вас всех к бичу,
Заставлю думать, что мне надо,
Заставлю делать, что хочу.

А. БЕЗЫМЕНСКІ. "Стрэл"
З маналога высокага чыноўніка.

*Нашы маці вучылі*
*калісь адмыслова*
*з першых крокаў малых*
*праўдзе ў матчыных словах.*

*"Снег, то — Зюзя, жар — Жыжа,*
*краніся кусачых*
*ды хутчэй жа хавай*
*свой апечаны пальчык"*

*І праходзілі зноўку,*
*далей навуку*
*верыць пільнаму воку,*
*чуйнаму вуху;*

*зерню ў глебе,*
*з якога ўзнімаецца колас,*
*мове ружы калючай,*
*пяшчотнай, кволай.*

*Верыць слову жывому*
*гучнаму верыць*
*і маўкліваму,*
*што пазірае з паперы.*

*Гэтак з часу язычніцтва*
*на Беларусі*
*вера йшла ў праўду словаў*
*ад Жыжаля й Зюзі.*

*Слова матчына*
*золатам ззяла й срэбрам,*
*і зарукай было,*
*і паролем, як трэба.*

*Ды аднекуль прыйшлі,*
*заявіліся ўсюды*
*на шляхах нашых вылюдкі,*
*людзі-прыблуды.*

*Пасмялелі яны*
*хлусы, спекулянты,*
*абяцаннем дабра*
*пралязалі да ўлады.*

*Словы іхнія люд,*
*нібы рыба нямая*
*крупкі смачнай прынады,*
*глытае, глытае.*

*Раз-другі, спакваля,*
*гэтак можна — не болей,*
*словы тыя галодным*
*варушацца болем.*

*Гнеў людскі з-пад хлусні*
*вырываўся, часамі,*
*і глушыўся тады*
*гайдукамі кіямі.*

*Але вабныя зноўку*
*гучаць абяцанні,*
*ім у шлемах выходзіць*
*падмацаванне.*

*І напружна на ўсё,*
*што тварыцца навокал,*
*пазірае ўжо скепсіс*
*прыжмураным вокам.*

*І людзей узрушае,*
*нарэшце, трывога:*
*а ці ёсць жа*
*ад большай бяды засцярога?*



Мал. Ул. Лукшы

## "Сэрца з сэрцам..."

**Сёлета ўвесь культурны свет адзначае 100-гадовы юбілей вялікага акына казахскіх стэпаў Мухтара Ауэзава. І з гэтай нагоды шаноўныя майстры мастацтваў рэспублікі Казахстан наведалі Маладзечна, што сталася прыкметнай падзеяй у жыцці горада.**

**Канцэртная праграма гасцей была досыць насычаная і разнастайная. Слухачы пазнаёміліся з казахскай народнай музыкай дзякуючы ансамблю народных інструментаў "Сазгын". Прагучалі ўсходнія мелодыі і песні. Асабліва цёпла прымала публіка саліста "Сазгына", лаўрэата міжнароднага конкурсу "Усходняя мелодыя" Р. Стамгазіева.**

**Знакаміты калектыў выканаў і знаную неапалітанскую песню "О, маё сонца" (саліст К. Жатыбаеў), парадаваў публіку выкананнем папуры на тэмы беларускіх народных песень.**

**Уяўленне маладзечанскіх слухачоў пра народную творчасць Казахстана ўзбагаціла і выкананне народных танцаў "Наз", "Айжалгыз" у інтэрпрэтацыі заслужаных артыстак рэспублікі А. Хаціевай і Г. Абдзіевай.**

**Прагучала і прафесійная акадэмічная музыка ў выкананні лаўрэата міжнароднага конкурсу Ш. Абілава і дацэнта кафедры фартэпіяна алма-ацінскай кансерваторыі А. Кусаінава.**

**Дапоўніла высокую духоўную атмасферу канцэрта выступленне акцёра алма-ацінскага драматычнага тэатра імя М. Лермантава і М. Токарава.**

**Выступленні гасцей з Казахстана, якія разгарнулі цэлую аповесць пра сваю краіну, выклікалі гарачы эмацыйны водгук у слухачоў.**

**Некалі творца вечных каштоўнасцей М. Ауэзаў сказаў: "У канцы XX стагоддзя казахі сілай свайго паэтычнага генія здолелі ў поўнай меры выказаць светаадчуванне і гістарычную мэту як невыпадковага народа". Гэтыя цёплыя словы зусім слушныя і ў дачыненні да нашага беларускага народа, якому таксама, як і іх усходнім братам, выпала нямала выпрабаванняў. Невыпадкова на канцэрце прагучала ідэя брацтва двух вялікіх нацый: "Сэрца з сэрцам, душа з душой".**

**Дзіна МУСАТАЕВА,**
**студэнтка Маладзечанскага музычнага вучылішча**

## Рукатворная прыгажосць



**Мноства вышытых вырабаў у магілёўскай рукадзельніцы Веры Васільеўны Клімовіч. Яны карыстаюцца поспехам не толькі ў сяброў і сваякоў. Сурвэткі, навалачкі, фартухі, расшытыя багатымі ўзорамі, ацанілі і ў іншых краінах — Бельгіі, Ізраілі, ЗША. Вышываннем гараджанка Клімовіч займаецца ўжо даўно. А выйшаўшы на пенсію, пачала аддаваць рукадзеллю і больш часу, і ўвагі.**

*Фота Мікалая ЦІТОВА, БЕЛТА*

ВІНШУЕМ!

# "Усё пачынаецца з асобы і ёю вянчаецца"

***Гутарка гэтая адбылася з нагоды сямідзесяцігоддзя добра вядомага ў рэспубліцы кінакрытыка Ефрасінні Леанідаўны БОНДАРАВАЙ, прафесара кафедры тэорыі і практыкі сучаснай журналістыкі БДУ. Размаўляць на роўных з уласным настаўнікам мне, васемнаццацігадовай студэнтцы было цяжка. Але цікава. Чалавеку са шматгадовым досведам і дасканалымі ведамі сапраўды ёсць што сказаць. І гэтае сказанае вымагае ўвагі.***

**— Вы даўно выкладаеце ва універсітэце і займаецеся крытыкай. Як спалучаюцца гэтыя дзве формы дзейнасці?**

— Яны не перашкаджаюць адна другой, а, наадварот, дапамагаюць. Што патрабуецца ад выкладчыка? Калі перад табой моладзь — аўдыторыя асаблівая, заўсёды прыдзірлівая і нават самаўпэўненая — з ёй, як кажуць, "трымай вуха востра", пакажы не толькі эрудыцыю, веданне прадмета, які выкладаеш, шырэй і глыбей, чым акрэслена праграмай. Патрэбна яшчэ асабістая захопленасць тым, што выкладаеш, сістэма доказаў, аргументацыі, пабудаванай на канкрэтных прыкладах. А хіба гэта не метадалогія крытыкі? Яна хоць і грунтуецца на мастацтве, жывіцца ім, але па сутнасці сваёй — аналітыка, якая выражаецца ў формах публіцыстыкі. Да крытыкі, у прыватнасці, кінематаграфічнай, мяне падштурхнуў прафесійны занятак: з 1948 г. працавала рэдактарам-кансультантам Дзяржкамітэта па кінематаграфіі Саўміна БССР, з 1952-га — галоўным рэдактарам па вытворчасці фільмаў Міністэрства культуры БССР. Пасада абавязвала добра ведаць творчы і вытворчы працэсы, чытаць сцэнарыі, глядзець фільмы, пісаць на іх заключэнні, фармуляваць прапановы міністэрскай калегіі. Размаўляць з творцамі, а для гэтага былі патрэбны веды, веды і яшчэ адчуванне мастацтва. Першае набывалася чытаннем адпаведных кніг і праглядам фільмаў, другое — прыйшло з вопытам, з вучобай на універсітэце. Як тут не прыгадаць словы разумнага чалавека Маркса: "Калі ты хочаш разумець мастацтва — ведай яго". Мастацкая дасведчанасць у творчасці заўсёды карысная журналісту, які мае справу з людзьмі розных густаў і захапленняў. Таму выкладаючы курсы літаратурна-мастацкай крытыкі, гісторыі мастацтваў, нацыянальнай ідэі ў мастацтве і крытыцы, я шмат увагі надаю прынцыпам і формам узаемаадносін з культурай.

**— Крытыкамі нараджаюцца ці становяцца?**

— Калі мець на ўвазе крытыку як прафесійны занятак, то "народзіны" да яе не стасуюцца: крытыкам можна зрабіцца. Вядома, пры пэўных задатках — схільнасці да аналізу, высвятлення сутнасці з'яў, з якімі даводзіцца сустракацца ў жыцці. Як справядліва пісаў Пушкін, крытык пачынаецца з любові да мастацтва, шчырай зацікаўленасці ім. Прынамсі, у мяне атрымалася менавіта так. Многія з нашых студэнтаў-журфакаўцаў зрабіліся вядомымі і аўтарытэтнымі крытыкамі, а першыя крокі іх пачыналіся з выканання студэнцкіх заданняў, з дыскусіі на практычных занятках. Гэта Анатоль Сабалеўскі, Таццяна Арлова, Святлана Берасцень, Таццяна Мушынская, Людміла Саянкова і іншыя.

**— Якія змены назіраюцца цяпер у кінакрытыцы?**

— На жаль, не зусім станоўчыя. Яна губляе прафесійны ўзровень, яго зніжае журналізм, якому сёння аддаюць перавагу многія масавыя выданні. Зніжаюцца крытэрыі ацэнкі твораў, не ў пашане абгрунтаванні, аналітыка. Само экраннае мастацтва таксама рэдка дае падставу для эстэтычнага аналізу. На адмаўленні толькі або пераліку недахопаў крытыка не можа развівацца. Ды і прыліву свежых сіл у крытыку не відаць. Гэты цяжкі шлях зрабіўся, як сёння кажуць, нерэнтабельным. Большменш прыстойна выглядае кінакрытыка ў спецыялізаваных выданнях. Ды і тое не заўсёды.

**— Асоба ў мастацтве і крытыцы... Што ў іх агульнае і што спецыфічнае?**

— Усё пачынаецца з асобы і ёй вянчаецца як у мастацтве, так і ў крытыцы. Але ў кожнага свая сфера дзейнасці. Мастак у ідэале ствараe эстэтычныя каштоўнасці, крытык аналізуе іх, вызначае асаблівасці, месца ў культурным кантэксце і эстэтычна-маральны патэнцыял. І калі мастак не проста рамеснік, які валодае выяўленчымі сродкамі таго ці іншага віду творчасці, ён адкрывае людзям свой непаўторны душэўны свет, стан рэчаіснасці, пазнаны і ўбачаны асобай, а значыць заўсёды цікавы для іншых. Крытык, калі ён — асоба, адкрывае ў гэтым свеце непаўторнасць суадносна з рэчаіснасцю. Вось гэтая дваістая праекцыя і ёсць галоўнае і найбольш складанае ў прафесіі крытыка. Ну, а калі ён яшчэ валодае словам, уменнем выстройваць сваю канцэпцыю мастацтва так, што яна захапляе чытачоў, — дасягае таго, што называецца майстэрствам творчай асобы.

**— Мінуў год пасля смерці Віктара Турава, які лічыўся вядучым рэжысёрам у беларускім кіно. Ці ёсць у нас асобы, якія могуць зараз прэтэндаваць на лідэрства?**

— У Віктара Турава былі падставы лічыцца лідэрам. Большасць яго твораў, пачынаючы ад фільмаў "Праз могілкі", "Я родам з дзяцінства", "Час яе сыноў", экранізацыя трылогіі І. Мележа "Палеская хроніка" — адметныя асаблівым светаадчуваннем, спавядальнасцю, маюць сваю паэтыку. У яго было нейкае трапятанне душэўнае перад прыродай, перад людзьмі, перад каханнем. Адкрыты, шчыры погляд на жыццё. Вера. І была свая праграма развіцця кінематографа, скіраванага да адлюстравання глыбінных працэсаў жыцця народа, паказу вытокаў патрыятызму. Цяпер я не бачу творцаў з такім маштабам і адметнасцю. Можа, яны вырастуць, у іх ж ёсць вучні. Але пакуль што страта гэтая непапраўная.

**— Вы каму-небудзь зайздросцілі ў навуцы, крытыцы?**

— Як разумець зайздрасць? Калі тое, што і табе хацелася б зрабіць нешта падобнае, на такім жа ўзроўні, — кожны можа зайздросціць. Я заўсёды з цікавасцю чытала артыкулы рускага крытыка Льва Анінскага, нашага незабыўнага Алеся Адамовіча, мяне захапляла і логіка мыслення Сяргея Герасімава, як мастака і тэарэтыка, і багацейшая эстэтыка фільмаў Лукіна Вісконці... На чорную зайздрасць не хварэю, а на белую — чаму б і не?

**— Нядаўна вы былі на Міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай 50-годдзю факультэта журналістыкі Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта. Ці ішла там гаворка аб сучаснай мастацкай культуры, крытыцы?**

— На гэтай канферэнцыі кожны выступаў з дакладам і ўзяў нешта карыснае з дакладаў іншых. Не магу сказаць, што там адкрыліся нейкія новыя канцэпцыі асэнсавання сучаснай мастацкай культуры, ясна толькі адно: паўсюды журналізм выцясняе прафесійную крытыку і гэта тлумачыцца інтарэсамі рынку, які ўсё шырэй абльтвае мастацтва. Яно цяпер — тавар, а яго трэба рэкламаваць. Зайздросна было пачуць, што ва ўсіх краінах выдаюцца кнігі, зборнікі аб культуры. У нас гэтага няма.

**— Як вы ставіцеся да праграмы, якая была паказана ў дні першага нацыянальнага кінафестывалю беларускіх фільмаў у Брэсце?**

— Да самой ідэі правядзення такіх фестываляў стаўлюся станоўча, бо яны выводзяць фільмы на глядацкую прастору, якой яны ў апошнія гады не маюць у пракаце. Але фестываль — гэта свята, тым больш нацыянальнае. Я лічу, што не ўсё, што робіцца зараз на базе "Беларусьфільма", вартае быць паказана. Павінен быць адбор, улік якасці, прыналежнасці да нацыянальнай культуры. Інакш дыскрэдытуецца сама ідэя. Вядома, ёсць прафесійныя карціны. Напрыклад, Міхаіл Пташук адчувае рынкавую кан'юнктуру (не ў горшым яе сэнсе) і ведае, чым зацікавіць гледача: у яго стужках ёсць і пластыка, і дынаміка, і акцёры, якія могуць прыцягнуць увагу. Можа, нашыя рэжысёры і не дужа клапоцяцца аб тым, каб з'яднаць грунтоўнасць і гуманізм распаведу з той формай, якая цяпер патрабуецца, але спробы такія ёсць. Я б вылучыла і стужку В. Дудзіна "Птушкі без гнёздаў" пра жыццё і лёс нашай паэткі Ларысы Геніюш. Ёсць творы, якія сведчаць, што наш кінематограф — не "чыстая дошка". Але такіх вяршынь, якіх хацелася б, няма.



**— Як вашу вучаніцу мяне цікавіць: чым адрозніваюцца студэнты-журфакаўцы 60—70-х гадоў ад цяперашніх?**

— У студэнтаў усіх часоў шмат агульнага — самаўпэўненасць на першых курсах і развакілівасць на старэйшых. Яны сталеюць і больш крытычна ставяцца да сябе і будучай прафесіі. І ўсё ж раней студэнты былі больш дысцыплінаваныя, упартыя ў набыцці ведаў. Цяпер яны рана ўладкоўваюцца на працу — у розныя фірмы, выпадковыя выданні — зарабляюць грошы. Не ва ўсіх такіх арганізацыях ёсць сталыя калектывы журналістаў, якія змаглі б дапамагчы фарміраванню журналіста як асобы. Гэта сур'ёзная праблема ў сённяшняй падрыхтоўцы журналістаў.

**— На факультэце пад вашым кіраўніцтвам працуе творчая лабараторыя "Крытык". У якой меры яна можа дапамагчы набыць прафесію, якой вы прысвяцілі не адзін дзесятак гадоў?**

— Калі б я лічыла, што лабараторыя не можа гэтаму паспрыяць, дык проста не займалася б ёй. У лабараторыі студэнты вучацца спасцігаць творы, аналізаваць іх, пісаць пра іх. Гэта карысна не толькі для тых, хто "збіраецца ў крытыкі", але і для журналіста любога профілю. Нашы лабараторцы набываюць прафесійныя крытэрыі і спрабуюць "хлеб крытыка", выпускаючы даволі цікавыя вучэбныя газеты літаратурна-мастацкага кірунку.

**Гутарыла Юлія ПАЛАЧАНІНА**

*Фота Сяргея ПЛЫТКЕВІЧА*

РЭПЛІКА

# Песні да... роздуму

Пашчасціла мне трапіць на вечар у філармонію, які праводзіўся ў гонар 50-годдзя заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Івана Краснадубскага. Усё было цудоўна. Народу сабралася поўная зала, што сведчыць пра павагу і любоў да гэтага таленавітага саліста. У вечары бралі ўдзел інструментальны дуэт у складзе Таццяны Шумаковай і Валерыя Баравікова; ансамбль народных інструментаў Мінскага музычнага вучылішча імя Глінкі пад кіраўніцтвам Яраслава Валасюка; народная артыстка Беларусі Наталля Гайда; сын Івана Краснадубскага саліст оперы Аляксандр; заслужаная артыстка Наталля Руднева. Юбіляра віншавалі песнямі і музыкай ягоныя сябры. А з залы былі апладысменты і кветкі, многа кветак.

Але засмуціла, здзівіла і пакрыўдзіла, што за дзве гадзіны, якія доўжыўся вечар, былі выкананы толькі дзве песні з нацыянальнага рэпертуару — гэта "Жытнёвы звон" на словы Пімена Панчанкі і "Зорка Венера" (як паведамілі вядучая — "на словы народныя"). Падумалася: "О, Божа! Што мы за нацыя, якая не можа нават выкарыстаць цудоўны талент нароўнага самародка для прапаганды нашых нацыянальных духоўных скарбаў?"

І яшчэ. Ігар Лучанок знайшоў магчымасць павіншаваць юбіляра тэлеграмай з Масквы, а ў Мінску ніхто з Міністэрства культуры не даўмеўся сказаць юбіляру колькі добрых і заслужаных слоў.

Пры канцы вечара Іван Краснадубскі, ягоны сын і яшчэ адзін саліст оперы, заслужаны артыст Расіі, заспявалі нейкі гімн на рускай мове (даруйце, не пачуў назву). У гэты момант я падумаў: а чаму было б не закончыць вечар гімнам "Божа, царя храни"?

Вось з якімі думкамі пакідаў залу філармоніі. Даводжу іх да чытачоў "ЛіМа". Можа, хто з чыноўнага люду Міністэрства культуры прачытае гэтую нататку і таксама падумае: а і праўда, чаму ў нас не халае нацыянальнай годнасці?

**Барыс ВЕЙНЯНСКІ**

## Маладыя галасы



**Вечары камернай музыкі, якія праходзяць у Саюзе кампазітараў, выклікаюць пэўную цікавасць у сталічных меламанаў. Асабліва, калі тут выступае творчая моладзь. Канцэрт студэнтаў Беларускай акадэміі музыкі дыпламанта Міжнароднага конкурсу Анатоля Олеха і Янаша Нэлепы (клас прафесара Л. Івашкова) стаўся адметнай падзеяй і для саміх выканаўцаў, і для слухачоў.**

**Праграму канцэрта складалі разнастайныя па стылі і жанры творы — ад Баха да Шастаковіча: оперныя арыі, рамансы, вакальныя цыклы. І гэта дало магчымасць маладым выканаўцам досыць поўна раскрыць свае творчыя магчымасці і прадэманстраваць прафесійную падрыхтаванасць.**

**Канцэрт пачаўся выступленнем студэнта чацвёртага курса Анатоля Олеха. У яго выкананні прагучала Арыя з кантаты N 82 І. С. Баха. Імя маладога спевака ўжо вядомае ў музычным асяроддзі. Сёлета ён браў удзел у Міжнародным конкурсе "Янтарны салавей" і атрымаў дыплом. Яго добра ведаюць аматары аперэты. Прыгожы па тэмбры голас (лірыка-драматычны барытон) і добрая сцэнічная знешнасць адметна вылучаюць Анатоля Олеха з кагорты маладых салістаў тэатра музычнай камедыі, дзе спявак выступае ўжо другі сезон. Дарэчы, удзельнічае ён і ў праграмах Маладзёжнага тэатра эстрады.**

**У той вечар у выкананні Анатоля Олеха мы пачулі арыі з опер і рамансы П. Чайкоўскага, Г. Даніцэці, А. Дворжака. Прагучаў таксама вакальны цыкл Д. Шастаковіча "Іспанскія песні", які даволі рэдка можна пачуць у канцэртным выкананні.**

**Прыемна адзначыць, што малады спявак здолеў годна падаць сваю творчую індывідуальнасць, арганічна спалучыць паэтычнае слова з музычнымі вобразамі і данесці да слухача адпаведны характар і стыль музычных твораў.**

**Другі ўдзельнік канцэрта Янаш Нэлепа — студэнт пятага курса. Уладальнік лірычнага тэнара, ён уключыў у праграму канцэрта арыі з опер П. Чайкоўскага, Дж. Пучыні, Л. Дэліба, Ж. Маснэ, а таксама рамансы з вакальных цыклаў Ф. Шуберта і М. Мінкова. Слухаючы выступленне Я. Нэлепы, адчуваеш, што гэта не ардынарны выканаўца, а тонкі, па-філасофску ўдумлівы інтэрпрэтатар вакальных твораў. Малады спявак удасканальвае выканаўчае майстэрства на сцэне опернай студыі Беларускай акадэміі музыкі. Тут ён выступіў у партыях Немарына (Г. Даніцэці, "Любоўны напітак"), Ленскага (П. Чайкоўскі, "Яўгеній Анегін"), Альфрэда (Дж. Вердзі, "Травіята"). Выканаўчай манеры Я. Нэлепы ўласціва тонкае пранікненне ў музычны вобраз, здольнасць творчага пераўвасаблення. Найбольш пранікнёна прагучалі рамансы з вакальнага цыкла Ф. Шуберта "Прыгожая млынарка".**

**Адметнай увагі варта мастацтва канцэртмайстра Ігара Чарніна. У ягоным ансамблі з выканаўцамі відавочна арганічнае ўзаемаразуменне, тонкае адчуванне характару выконваемых твораў.**

**Публіка шчыра вітала ўдзельнікаў канцэрта.**

**Наталля ЯНКОЎСКАЯ**

*На здымку: Анатоль ОЛЕХ ды Янаш НЭЛЕПА.*

ДРУК

# "Павінен чытаць кожны беларус..."

З'яўленне чарговага нумара часопіса "Беларуская мінуўшчына" для кожнага, хто цікавіцца рознымі аспектамі нацыянальнай даўніны, — як свята. І хоць у нашай краіне выходзяць яшчэ два выданні, профільна блізкія да "БМ" — "Спадчына" і "Беларускі гістарычны часопіс", першае вылучаецца сярод іх не толькі зместам, а і афармленнем. Акрамя шматлікіх чорна-белых ілюстрацый, ёсць у "БМ" і каляровы ўкладыш. Зрэшты, а як жа інакш, калі "Беларуская мінуўшчына" — не проста часопіс, а гісторыка-публіцыстычны ілюстраваны часопіс. Праўда, пачынаючы з шостага сёлетняга нумара (а "БМ", як вядома, двухмесячнік) профіль выдання крыху мяняецца: "Беларуская мінуўшчына" набывае статус навукова-папулярнага ілюстраванага часопіса.

— Мяняецца? — намеснік галоўнага рэдактара, вядомы журналіст і краязнаўца, аўтар некалькіх кніг Святаслаў Асіноўскі ўдакладняе: "Паняцце "навукова-папулярны" будзе больш адпавядаць зместу нашага выдання, бо мы даўно з'яўляемся менавіта такім часопісам. І ніколі не здраджвалі высокаму прафесійнаму ўзроўню матэрыялаў, аўтарамі многіх з якіх, дарэчы, з'яўляюцца вядомыя навукоўцы-гісторыкі. Разам з тым "БМ" разлічана не толькі на чытача падрыхтаванага, а і на ўсіх, хто проста цікавіцца гісторыяй.

Красамоўна аб гэтым сведчыць і пяты нумар, які нядаўна выйшаў з друку. Дастаткова назваць асноўныя публікацыі, каб упэўніцца, што "БМ" — часопіс менавіта навукова-папулярны. Адкрываецца ён артыкулам кандыдата гістарычных навук У. Канановіча "Змаганне за спадчыну Рурыкавічаў". Гэтак званая "спадчына Рурыкавічаў", што была асноўнай праблемай у палітычных дачыненнях Вільні і Масквы напрыканцы XV і пачатку XVI стагоддзя, — землі, якія ў IX—XII стагоддзях уваходзілі ў сістэму княстваў Русі і былі населены пераважна праваслаўнымі, па тагачаснай тэрміналогіі — "рускімі".

А. Рыбакоў ("...смотрел тое справы подканцлерий наш") расказвае пра тое, чым займалася вялікакняжацкая канцылярыя ў Вялікім княстве Літоўскім, і знаёміць з найбольш яркімі асобамі, што мелі дачыненне да яе дзейнасці.

Пастаянны аўтар часопіса доктар гістарычных навук Р. Платонаў у матэрыяле "Сamазабойцы" працягвае тэму трагедыі беларускага народа ў 30-ыя гады, асэнсоўвае лёсы выдатных нацыянальных дзеячаў, якія вымушаны былі пайсці з жыцця па ўласнай волі, бо іншага выбару для іх не было. Блізкі па змесце гэтай публікацыі і артыкул кандыдата гістарычных навук У. Адамушкі ("Абвінавачваюць лічбы. Гістарыяграфія і крыніцы па праблеме палітычных рэпрэсій 1920—1950-х гадоў на Беларусі").

"Беларуская мінуўшчына", як вядома, не амбінае і спрэчных момантаў у гісторыі, даючы магчымасць жадаючым выказацца ў раздзеле "Пяроспар". У прыватнасці, не адзін год М. Біч і У. Казбярук вядуць між сабой вострую палеміку па пытаннях палітычных поглядаў і пазіцый К. Каліноўскага. Ім прадстаўлена магчымасць выказацца яшчэ раз.

В. Касмылёў ("Дакладнасць — ветлівасць гісторыкаў") выпраўляе асобныя недакладнасці, што з'явіліся ў публікацыях апошняга часу па гісторыі. Некалькі матэрыялаў дазваляюць лепш пазнаёміцца з вучоным, якога сучаснікі называлі "электрычным чалавекам" — Я. Наркевічам-Ёдкам. В. Чаропка прасочвае гісторыю сімвалаў нашага краю. Асобныя моманты з біяграфіі народнага песняра ўдакладняюцца ў артыкуле В. Міцкевіч "Якуб Колас у Сёмкаве"...

**— Святаслаў Маркавіч, бадай, няма патрэбы пералічваць усе матэрыялы. Чытач, узяўшы часопіс у рукі, і сам заўважыць іх. А як наконт віктарыны "Ці ведаеце вы гісторыю Беларусі?", якую праводзіць "БМ"?**

— У пятым нумары падведзены вынікі пятага тура. А імёны пераможцаў усёй віктарыны будуць змешчаны ў шостым нумары.

**— А чаму б іх не згадаць цяпер?**

— Зраблю гэта з задавальненнем, тым больш, што сваіх лаўрэатаў мы ўжо ўрачыста ўшаноўвалі ў Інстытуце гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Тады ж заснавальнікі часопіса ўручылі пераможцам прызы. Прыемна, што і сярод удзельнікаў, і сярод пераможцаў — людзі, у сваёй прафесійнай дзейнасці з гісторыяй не звязаныя. Гэтая акалічнасць, а таксама тое, што мы атрымалі шмат лістоў-адказаў, яшчэ адно пацвярджэнне таго, што цікавасць да даўніны ў народа расце і ўсё больш людзей задумваецца над сваімі нацыянальнымі каранямі, вытокамі, хочуць ведаць, адкуль мы і хто мы. Першае месца ў віктарыне заняў урач-тэрапеўт з Вілейкі С. Грынцэвіч, якому заснавальнікі ўручылі малагабарытны тэлевізар. На другім месцы — М. Грачанік з Высокага Камянецкага раёна, выкладчык геаграфіі і гісторыі ў школе і геалагічных дысцыплін у Брэсцкім дзяржаўным універсітэце. Ён атрымаў фотаапарат "Кодак". Трэцім стаў інжынер-сувязіст з Ваўкавыска М. Быхаўцаў, які паехаў з Мінска з малагабарытным радыёпрыёмнікам "Філіпс". Студэнту Віцебскай ветэрынарнай акадэміі І. Пятроўскаму, супрацоўніку Магілёўскага вытворчага аб'яднання "Хімвалакно" А. Рылькову, мінчанам — выкладчыку біялогіі І. Гардзіевіч і супрацоўніку музея Я. Коласа Ф. Корзуну прысуджаны заахвочвальныя прэміі — падпіска на наш часопіс на першае паўгоддзе наступнага года і ўручаны фотаальбом "Мінск".

**— Цяпер, калі пачалася падпіска, чытачу цікава даведацца, што можна будзе прачытаць у першым нумары 1998 года...**

— Не магу не назваць публікацыю Р. Платонава, звязаную з дакументамі НКУС адносна "контррэвалюцыйнай дзейнасці" Я. Купалы і Я. Коласа. В. Касмылёў прасочвае крымінальны шлях дасягнення дваранскай годнасці некаторымі прадстаўнікамі беларускай шляхты. А ці не зацікавіць матэрыял кандыдата юрыдычных навук Т. Доўнар "Калі шляхціц мог па-сабачы загаўкаць?". Адна з публікацый першага нумара дазволіць даведацца пра эпідэміі, якія напаткалі беларускі народ у перамежку з XI да XIX стагоддзя, матэрыял напісаны на падставе летапісаў...

**— Відаць, рэдакцыя атрымлівае лісты, аўтары якіх дзеляцца ўражаннямі аб прачытаных матэрыялах, нешта падказваюць, удакладняюць?**

— Як чытач ставіцца да нашага выдання, лепш за ўсё, думаецца, відаць з ліста вядомага нашага паэта Пятра Прыходзькі: "Часопіс "Беларуская мінуўшчына" павінен чытаць кожны беларус, хоць гэта і цяжка дасягнуць зараз пры такой расколатасці нашага грамадства. Асабіста я чытаю кожны нумар і ўдзячны рэдакцыі за многія матэрыялы, якія дапамагаюць глыбей і праўдзівей асэнсаваць тыя гістарычныя падзеі, якія адбываліся на нашай зямлі як у далёкім мінулым, так і ў новыя часы".

**— Кожны беларус стане чытачом "БМ", будзем спадзявацца, у перспектыве, а пакуль...**

— А пакуль хацелася б, каб у нас з'явілася больш падпісчыкаў. "БМ", як і іншыя выданні, у продаж паступае ў абмежаванай колькасці. Таму лепей падпісацца. На першае паўгоддзе 1998 года гэта будзе каштаваць 90 тысяч рублёў.

**Гутарыў Алесь МАРЦІНОВІЧ**




# Падмурак велічы

У Полацку прайшла III Міжнародная канферэнцыя "Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі", у якой прынялі ўдзел каля 70 даследчыкаў з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы. Падобныя сустрэчы адбываюцца раз у 5 гадоў і абагульняюць навуковыя здабыткі даследаванняў рэгіёна і фіксуюць святочную дату ў жыцці горада. А сёлета Полацк адзначае 1135 гадавіну свайго існавання.

Тэма канферэнцыі была вельмі дарэчы да разумення феномена Полацка. Відавочна, што ён меў, прынамсі, два вытокі. З аднаго боку — гэта сам горад, досыць старадаўні, але ўсё ж адносна малады ў параўнанні са сваім наваколлем. А з другога — Полацкая зямля, гэтае самае наваколле, з якога некалі і вылучыўся горад: вясковае абшчыннае асяроддзе. Менавіта там трэба шукаць галоўны падмурак велічы Полацка — як старадаўняй, так і сучаснай.

Аб гэтым сведчылі адпаведныя даклады — па лексіцы, тапаніміцы, антрапалогіі, этнаграфіі, што краналіся тэм, якія сягалі ў дасярэднявечныя часы, да IX стагоддзя, у даўніну, дзе панавала язычніцкае светаразуменне, і галоўнымі былі — праца на зямлі, павага да ўсіх Боскіх тварэнняў, разуменне раўнавагі жыцця ў свеце. Гэта — вытокі, якія, па выніках даследчых экспедыцый, захоўваюцца на Полаччыне дагэтуль.

Потым з часоў узнікнення горада, дзе моцным вузлом спляліся пажаданні і мары розных народаў — і балтаў, і славянаў, і скандынаваў, — пачынаецца новая рэчаіснасць. Праз горад на гэтыя землі прыходзіць светаразуменне Хрысціянскае. Яно прайшло няпросты шлях да дзяржаўнага статуса на гэтых землях — больш за паўтысячагоддзя! — як нідзе ў Еўропе.

Як адзначалася на канферэнцыі, са спадчыны Еўфрасінні, з трох яе падарункаў нашчадкам — Крыжа, Іконы і Храма — натуральным на Беларусі захаваўся толькі Храм. Але — таксама можна ўпэўнена сказаць — захаваўся і велічны дух Еўфрасінні. Таму прыязджаюць і сёння ў сціплы Полацк людзі не толькі з усёй Беларусі, але і з іншых краін, каб убачыць гэтую святыню, што перажыла ўжо больш за 8 стагоддзяў.

Шэраг дакладаў быў прысвечаны тэме архітэктурных помнікаў часоў сярэднявечча, тапаграфіі, унутраных і знешніх палітычных зносін і інш.

Арганізатары здолелі прыцягнуць да ўдзелу значныя навуковыя сілы, у ліку якіх такія велічыні, як, напрыклад, Георгій Штыхаў з Мінска, Ганна Харашкевіч і Леанід Аляксееў з Масквы, Станіслаў Александровіч з Торуня.

Канферэнцыя засведчыла, што подых сучаснасці закранае і такую архаічную галіну, як гісторыя. Так, акрамя звычайных секцый гісторыі і археалогіі, працавала і секцыя гістарычнай інфарматыкі. Відавочна, што неўзабаве яна перастане быць экзатычнай з'явай і стане неабходным спадарожнікам даследчыкаў. Дасягненні, што прапануюць інфармацыйныя тэхналогіі, сапраўды ўражваюць — гэта магчымасці карыстацца тэматычнымі базамі дадзеных, аператыўна звяртацца не толькі да звычайных кніжных крыніц, але і да старадрукаў, архіўных дакументаў, якія раней былі проста недасягальнымі. Можна працаваць і з археалагічнымі калекцыямі, музейнымі экспанатамі. Трэба толькі ўдакладніць, што ўсе азначаныя інфармацыйныя здабыткі кранаюцца, у асноўным, замежных крыніц. Таму што на Беларусі пакуль адсутнічае адпаведная дзяржаўная праграма, і мясцовыя навуковыя і культурныя цэнтры (бібліятэкі, архівы, музеі, інстытуты) пакуль што не ўключаны ў адзіную інфармацыйную прастору.

На жаль, скаардынаванай і высакаякаснай працы па стварэнні нацыянальнага банка дадзеных у нас пакуль не вядзецца, і гэта досыць нечакана, бо гісторыя сведчыць аб трывалай мясцовай традыцыі весці шчыльны ўлік каштоўнасцяў. Так, добра вядомыя Метрыкі Вялікага княства Літоўскага і сёння ўражваюць сваёй дакладнасцю, і ахопліваюць практычна ўсе тагачасныя дзяржаўныя вартасці.

Адзначым яшчэ адно дасягненне камп'ютэрных тэхналогій — магчымасць хуткіх і амаль непасрэдных зносін з іншымі спецыялістамі і арганізацыямі ва ўсім свеце, што дазваляе даследчыку значна зменшыць моўна-інфарматыўны бар'ер і атрымаць сапраўды аб'ектыўны погляд на праблему.

І досыць сімвалічна, што канферэнцыя праходзіла ў будынку Музея-бібліятэкі Сімяона Полацкага, дзе сучасная камп'ютэрная тэхніка ўдала кантраставала з музейнай даўнінай, прысвечанай асветніцтву, вытокам кнігі і друкарства. Уразіла і тое, што падчас працы канферэнцыі дзверы Музея практычна не зачыняліся — ён увесь час працаваў, адна група наведвальнікаў змяняла другую. І гэта — у невялікім Полацку!

Канферэнцыя абагульніла навуковыя дасягненні і падрыхтавала прапановы на будучыню, сутнасць якіх вылучаецца проста і натуральна: даследчай працы на Полаччыне шмат, і яна вартая выканання.

**Сяргей ВІЦЯЗЬ,**
**навуковы супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны**

# На Крымскай паўвыспе

## НАТАТКІ З АДНОЙ ВАНДРОЎКІ

У Крым сёлета мне захацелася патраціць абавязкова. Патрэба менавіта зараз кудысьці з'ехаць з Беларусі вырашальна спалучалася з дзіцячым жаданнем пабачыць нарэшце на свае ўласныя вочы мора. Да таго ж здзейсніць гэтае падарожжа можна было дастаткова танна. Адправіцца спярша мерканым аўтастопам, каб гарантаваць сабе прыгоды, не ўдалося. Надарылася іншая нагода — студэнцкі адпачынкава-працоўны лагер. Тое, што на поўдні яшчэ і працаваць трэба, не дужа палохала. Такім чынам у сёлетнім жніўні здзейснілася мая даўняя мара: я еду ў Крым...

●

Першы раз я пакідаў дом на доўгі тэрмін. Якія пачуцці ахінуць мяне? Мне хацелася адчуць рамантычную тугу па радзіме. Карцела зведаць, ці здольны я ўвогуле адчуваць гэтую самую настальгію. Міжволі ўзгадвалася: "Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць..." Ды мне здавалася — я люблю Беларусь.

●

Калі вылучыць з маіх згадак самае вялікае і трывалае ўражанне пра Крым, то гэтым станецца, напэўна, прырода краю. Прыгожая, кідкая — ды не беларуская. Ірваная гарамі, сонцам і морам. Адразу адчуваеш, што пастаянна жыць тут ты б не здолеў. Мала травы, голая зямля...

Часам, праўда, хацелася, каб і горы, і мора перанесліся на Беларусь. Ды далей, адрываючы мроі, утрапёна дэклaруеш: у нас мілосней...

●

Дагэтуль мне не падабалася літаратура пра паўднёвыя краіны, пра тамтэйшых людзей, традыцыі. Не мог я блізка ўспрымаць мастацка-геаграфічную чужацкасць, суб'ектыўна-аўтарскую пачуццёвасць напісанага пра незнаёмае, асабліва дэталёвыя апісанні... Цяпер інакш.

*"Вось і землі жаданыя. Поўдзень. Нязвыклыя рэчы і гукі".*

Цяпер я са шчырым разуменнем перачытваю "Іранскі дзённік" Пімена Панчанкі, які гартаў няўцямна раней...

●

Наш студэнцкі лагер уяўляў відовішча гаротнае. Жылі мы за закратаванымі вокнамі ў будынку колішняй вар'ятні. Гарачая вада сталася нязведанай раскошай (адзіная лазня ў мястэчку два гады як зачынена). Мы на гэта не наракалі, паступова звыкліся — усё ж беларускае студэнцтва. Ды й не магло быць іншых умоў.

Якія з нас працаўнікі? Адны страты і турботы. І пlaціць прыстойна нам ніхто не збіраўся. Эканамічная выгода не дужа вялікая. Папросту сімвалічна захоўваюцца традыцыі савецкіх часоў, і ўсе задаволены...

●

У сваім пакоі, адразу як прыехалі, вывесілі бел-чырвона-белы сцяг. Наіўная дэманстрацыя беларускасці, імгненная і настраёвая... На ўвесь астатні час знаходжання ў Крыме яна сталася натуральным увасабленнем нашых пачуццяў і памкненняў, якія крымская рэчаіснасць абвастрала і ўсталёўвала.

Крым — чыста савецкая тэрыторыя (тут і ўкраінскія грыўны называюць рублямі). Наўкола, кантрастуючы з прыроднымі адметнасцямі, чалавечая безаблічнасць, жыццёвая аморфнасць. Усе аднолькава пaглядаюць і гандлююць, аднолькава выглядаюць і адпачываюць. Хаця і паводзіш сябе гэтаксама, хочацца давесці, што ты адрозны, што ты беларус, што ты не набрыдзь.

На ўсё наваколле спявалі нападпітку беларускія песні...

●

Што могуць адчуваць мае суайчыннікі, пазіраючы на мора? Адны ўзгадваюць свае штогадовыя адпачынкі на поўдні за савецкім часам і анекдоты пра курортную атмасферу. Некаторыя па-псеўдаадраджэнску засмоцяцца па Вялікім княстве, успомніўшы "ад мора да мора".

У кожным разе — больш няма... Няма таго, што раньш было...

●

Усіх беларусаў на гэтай паўвыспе 52 тысячы (даволі багата). Сутыкаешся з імі часта. Гэтак здаецца, бо заўжды надараецца працяглая гутарка. Яны вясёла вітаюцца, імпэтна распавядаюць, адкуль паходзяць, як апынуліся ў Крыме...

Ды гэта ўжо не насамрэчныя беларусы — нацыянальна змізарнелыя нават пабытава: недастаткова ядуць чорнага хлеба і бульбы, не маюць магчымасці піць добрае піва і гарэлку. Любяць Лукашэнку. Здзіўляюцца, чаму мы, маладыя, супраць яго. Але кавуны танней прададуць...

●

Адзін мой знаёмы, распавядаючы пра крымчукоў, неаднаразова ўзгадваў надпіс на прывакзальным плоце ў Сімферопалі. Гады з два таму тут было напісана: "Нет бендеро-фашизму в Крыму". Сёлета плот ужо быў чысцюткі.

Вонкавых праяў украінскага нацыяналізму на паўвыспе больш няма. Крым застаецца па ўсім расійскім. Украінскую мову, якую тут папросту не ведаюць, пачуеш радзей, чымсьці беларускую ў Мінску. Яна нібыта пазажыццёва прысутнічае адно што на тэлебачанні, шыльдах і этыкетках...

●

Аднаго разу хлопцы з Заходняй Украіны частавалі сівухай: "За нашу і вашу свабоду!". На маю крыўдную заўвагу, што тэрыторыя, якая зараз пад іхнімі нагамі, насампраўдзе зусім не ўкраінская, Зміцер са Львова, пагадзіўшыся, зазначыў, што "праз пару рокiв Крiм буде наш".

На Беларусі гэткіх аптымістаў усё менш...

●

Тамтэйшае насельніцтва расійскага паходжання не атаясамлівае сябе з расійцамі і называе сябе кацапамі. Вось такі своеасаблівы мясцовы нацыяналізм.

Адзін з асалодай распавядаў нам пра выпадак з някемлівымі маскоўцамі. Маўляў, прыехалі да іх на сховішча гародніны колькі чалавек з Масквы. Папрасілі паласавацца міндалем. Калі ласка, бярыце. Дык яны пачалі шалупінне жаваць...

●

Крымчукі не любяць Мікіту Хрушчова і "бандэраўцаў". А гэтаксама татараў, з якімі неаднойчы былі ўжо жорсткія канфлікты.

Татары ў Крыме — трэцяя і, мабыць, самая рэальная сіла. Іхнія нацыяналісты, маючы падтрымку з-за мора, распрацавалі дваццацігадовы палітычны план, паводле якога за гэты тэрмін крымскія татары павінны стаць дамінуючым насельніцтвам краю. Ужо цяпер яны галосна моляцца ў пабудаваных апошнім часам у многіх вёсках і гарадах мячэцях...

●

Падалося, што Крым — гэта мясцовасць, дзе аздараўляюць хворых дзетак і зарабляюць грошы на турызме і чалавечых млосцях...

●

Калі мужчына прыязджае ў чужую краіну, ён непазбежна мусіць параўноўваць жыхарак новага краю са сваімі суайчынніцамі.

Беларускія дзяўчаты — самыя файныя. У Крыме гэтае выслоўе перайшло для мяне ў аксіёму. Ейная трывалая прысутнасць захавалася ў сэрцы і на роднай зямлі. І не толькі таму, што Алена, якую спаткаў у далёкім Крыме, даспадобы мне і ў Мінску...

●

У цягніку Сімферопаль—Мінск здзіўляе нечаканая патрыятычная пачуццёвасць і самога, і астатніх. На ўкраінска-беларускай мяжы ўсе п'юць за Беларусь. Потым многія ляжаць ля вокнаў, замілавана ўтаропіўшыся ў краявіды. Ажно млееш...

У Гомелі выскокваем на перон. Шпацыруем, вылучаючыся сваёй загарэласцю ў натоўпе, да бліжэйшых крамаў і газетнага шапіка. Пад "Рэчыцкае" і "Дняпроўскае" чытаем "Свабоду". Шарамет сядзіць, мітынгаў не было...

Мі-і-нск...

**Кірыла ПАЗНЯК**

ПОШТА

# "Педагагічныя навацыі",

## альбо Усё, як і раней...

Неяк у канцы кастрычніка я ўбачыла ля магазіна купку знаёмых жанчын, якія вельмі ўзрушана штосьці абмяркоўвалі, размахваючы лістком са школьнага сшытка. Я прывіталася і пацікавілася, што іх гэтак усхвалявала. І жанчыны расказалі, што іхнім дзецям, якія ходзяць у 121-ую мінскую школу, настаўнікі на ўроках прадыктавалі анкету. Гэтую анкету вучні павінны былі перадаць сваім бацькам, каб яны адказалі на пазначаныя ў ёй пытанні. На лістку са сшытка і былі напісаны тыя пытанні. Я прабегла іх вачыма:

1. Колькі часу ў месяц, у тыдзень (хаця б прыблізна) вы бавіцеся са сваімі дзецьмі: дома, на лецішчы, у сумесных забавах на прыродзе?

2. Хто з вас дае дзецям разумныя парады?

3. Якія цяжкасці сустракаеце пры выхаванні дзяцей і як вы іх пераадольваеце?

4. З чым вы спатыкаецеся пры наведванні школы: з добрымі парадамі, размовамі пра паспяховасць, павучаннямі?

5. Як вы ставіцеся да адміністрацыі школы і настаўнікаў?

"Нішто сабе анкетка", — падумала я і не стрымалася, папытала ў жанчын:

— Анкета гэта ананімная, ці трэба падпісвацца?

Адна жанчына сказала, што ў тым класе, дзе вучыцца яе дзіця, гаварылі, што можна не падпісваць, а дзве другія паведамілі, што настаўнікі іхніх дзяцей наказвалі вучням, каб бацькі падпісаліся.

— Ды што там: падпісвай — не падпісвай, настаўнікі ўсё роўна будуць ведаць, беручы анкету з рук дзіцяці!

— Я б такую анкету выкінула ў вядро са смеццем! — зноў не стрымалася я.

— Дык і нам хочацца тое ж зрабіць, але ж тады настаўнікі затузаюць дзяцей, так што давядзецца нешта пісаць.

— І што ж вы будзеце пісаць? Што вы адкажаце ну хоць бы сабе на першае пытанне — колькі часу вы праводзіце з дзецьмі?

— Напішу, што заўсёды з імі. І калі яны ў школе, і калі на вуліцы — маё сэрца заўсёды з імі, і калі ўрокі робяць, я імкнуся быць поруч, — адказала адна жанчына.

— А я напішу абы-што: у тыдзень — 18 гадзін, у месяц — 42 гадзіны. Ці якія-небудзь іншыя лічбы пастаўлю, — сказала другая.

А трэцяя ўздыхнула:

— А я праўду напішу: што амаль не бачу дзяцей, бо ішачу на дзвюх работах, каб зарабіць нешта.

— Ну, а пра разумныя парады? Хто іх дае — бацька ці маці?

— Калі б пісаць праўду, дык у нашай сям'і я — галава і выхаванне дзяцей — на мне, але ж бацьку будзе крыўдна. Напішу, што абое, — сказала першая жанчына.

— А ў мяне так. Збіраецца хлопчык ісці на двор, я кажу: "Вецер халодны, апрані куртку". Бацька: "Нічога, хай загартоўваецца!" А бабуля крычыць: "Не нервуйце дзіця!" Дык я напішу, што разумныя парады даюць усе, — сказала другая.

А трэцяя — зноў нявесела — прамовіла:

— Бацька майго дзіцяці рэдка цвярозы бывае. Калі не дап'е — не трапляйся на вочы: мацюгаецца, біцца спрабуе. Заўважаю, што і хлопчык мой пачаў ужо пераймаць яго інтанацыі і слоўцы. Так што на пытанне, хто з нас дае разумныя парады, адкажу — бацька. І адказ будзе, і самой хоць разбіся, ніхто, ні школа, ні ўчастковы не дапаможа. І хлопчыка шкада. І ад п'янтоса не пазбавішся. Цяпер, кажуць, і выселіць нельга.

Мы спагадліва памаўчалі. А праз якую хвіліну пачалі шукаць адказы на трэцяе пытанне анкеты — пра цяжкасці ў выхаванні і іх пераадоленне.

Першая жанчына:

— Што ім, цэлы сшытак пісаць ці што? Напішу, што калі не слухаецца, стараюся ўгаварыць.

Другая:

— Напішу, што маё дзіця не любіць англійскую мову вучыць. Я і ўгаворваю, і сваруся, і правяраю, усё роўна — двойка, зрэдку — тройка.

Трэцяя суразмоўніца:

— У мяне галоўная цяжкасць — чым накарміць, за што вопратку, сшыткі купіць. Гэтак дорага ўсё! А тут загадалі сшыткі памяняць на 2-ую чвэрць, а яны ж яшчэ напалову чыстыя. Мяне калісь у школе вучылі, што кожны сшытак трэба дапісаць да вокладкі. Але пра сшыткі пісаць не буду... А п'янюга мой чуць што — за рэмень: "Ты, маць-перамаць, як адведаеш дзягі, дык не тое што рускую, кітайскую мову вывучыш!.."

— І дапамагае?

— Дзе там! Дзіця стараецца неўзаметку знікнуць, шуснуць за дзверы.

— І што напішаце?

— А й напішу, як казала: галоўная цяжкасць — накарміць, апрануць-абуць.

Дзве іншыя кабеты падтрымалі сяброўку:

— Дык і ў нас тое ж самае, той жа клопат...

— А што напішаце пра настаўнікаў, адміністрацыю школы? — я наважылася высветліць усе дарэшты.

— Тут мы напішам як найлепей, — заўсміхаліся жанчыны. — І добра ставімся да іх, і настаўнікі, адміністрацыя нам дапамагаюць парадамі... Хаця можна было б сёе-тое і іншае напісаць...

Мы пасмяяліся і разышліся. Жанчыны пайшлі пісаць адказы на пытанні анкеты, а я, ідучы дадому, разважала сама з сабою: "Гэта ж трэба! Які мудрэц прыдумаў такую анкету? Добрасумленныя класныя кіраўнікі і без анкет ведаюць усё пра сваіх вучняў і іх бацькоў. Значыць, прыдумалі анкету не настаўнікі? Тады — хто? Можа, нейкі "дасціпны" педагог-псіхолаг фальш, пададзены бацькамі, абагуліць, сістэматызуе і пакладзе ў аснову сваёй дысертацыі? Бывала ж такое. Словам, гэтай анкетай адміністрацыя і настаўнікі 121-ай школы (а можа, і не толькі 121-ай) замест таго, каб вучыць дзяцей рашаць задачы, разумець прачытанае, граматна пісаць, справакавалі вучняў і іх бацькоў хлусіць напраўду"...

Усё, як і раней?

**Ларыса КАРОТКАЯ**

*г. Мінск*

## Памяці песняра



**Вечарына, прысвечаная 115-й гадавіне з дня нараджэння Якуба Коласа, прайшла ў Доме літаратара. Называлася яна паэтычным радком песняра з паэмы "На шляхах волі" — "І песня водгулле спаткае..." Гаварылася пра неўміручасць творчасці народнага паэта, гучалі яго вячыстыя словы. Аздобілі свята самадзейныя артысты з радзімы песняра.**



**Вечарыну вёў народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч.**

**Аксана СЛЕСАРЭНКА**
*Фота У. ГУЗОЎСКАГА*

## Прысвечана Івану Хруцкаму



**У выставачнай зале Саюза мастакоў у Віцебску адкрылася выстава работ удзельнікаў рэспубліканскага пленэру памяці ўраджэнца Бешанковіцкага раёна, мастака XIX стагоддзя, акадэміка жывапісу Івана Хруцкага. Свае творы на суд гледачоў прадставілі мастакі з Мінска, Магілёва, Гомеля, Віцебска і Наваполацка.**

*На здымку: знаёмства з экспазіцыяй выставы.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Адгукніцеся, выпускнікі!

**Кафедра харэаграфіі Беларускага універсітэта культуры запрашае сваіх выпускнікоў, былых выкладчыкаў, супрацоўнікаў і ўсіх жадаючых на святкаванне 20-годдзя калектыву.**

**12 снежня а 16 гадзіне ў Палацы культуры "Юнацтва" (вул. Фабрыцыуса, 5) — урачыстае пасяджэнне і святочны канцэрт.**

**13—14 снежня — майстар-класы, "круглы стол", фальклорны вечар.**

**Рэгістрацыя ўдзельнікаў — 12 снежня з 11 гадзін у 511 аўд. (БУК). Даведкі па тэл.: 222-83-22.**

# Багрымава кніга

***Задума напісаць пра Паўлюка Багрыма ўзнікла некалькі гадоў таму назад, калі я працаваў над кніжачкай "Тэадор Нарбут", што выйшла ў серыі "Нашы славутыя землякі" ў выдавецтве "Полымя".***

***Потым гэтае імя пачало асацыіравацца ў мяне з магутным, маўклівым чалавекам, які часта сніўся начамі. Глядзеў і не прамаўляў ні слова, нібы ў нечым дакараў. Я зрабіў рукапіс кнігі, прысвечанай яму, але змяніўся час, і зараз ён нікому непатрэбны. Чытачам "Літаратуры і мастацтва" прапаную, як мне здаецца, дзве найбольш цікавыя і заблытаныя старонкі з жыцця П. Багрыма.***

**АЎТАР**

## ЦІ БЫЎ ПАЎЛЮК У САЛДАТАХ?

Вынесці ў падзагаловак гэтае пытанне мяне прымусілі тыя факты, якія сведчылі (праўда, толькі ўскосна, на аснове лагічна-эмацыянальных разважанняў) аб бязлітасным пакаранні таленавітага юнака і аб здачы яго на вайсковую службу. Пра такі ход справы сцвярджалі ўсе, без выключэння, даследчыкі. І толькі зусім нядаўна А. Лойка адважыўся напісаць наступнае: "Дакументамі не пацвярджалася таксама, што П. Багрым быў здадзены ў салдаты". Потым з гэтых жа пазіцый пачаў вельмі актыўна і з вялікім натхненнем выступаць М. Маліноўскі: "Вось што беспадстаўна, я лічу, прыпісваюць Паўлюку Багрыму... тое, што ён чытаў сялянам "крамольныя" вершы і быў за гэта аддадзены ў рэкруты".

Сапраўды, каго з даследчыкаў не прачытаеш, то ўсюды адно і тое ж: служыў 25 гадоў...

Калі нават і служыў, то не 25 гадоў, бо тэрмін гэты ў расійскім войску быў у той час крыху зменшаны — да 20 гадоў...

Не падыходзіць тут і пярэчанне таго ж М. Маліноўскага, маўляў, у рэкруты бралі ва ўзросце не менш за 19 гадоў. Афіцыйна гэта так. Але ж даволі часта былі і выключэнні. Звернемся да фундаментальнай працы М. Гернета "История царской тюрьмы". Вучоны ўсебакова даследаваў не толькі крэпасці, турмы, але і арыштанцкія ды катаржанскія роты (мясціны, дзе яны размяшчаліся). Вось да якога выніку ён прыйшоў: "Арыштанцкія роты грамадзянскага ведамства прызначаліся для вязняў, асуджаных за ўсялякія злачынствы. Сюды ж накіроўваліся па волі памешчыка, без суда, іхнія прыгонныя, а таксама ўцекачы і бадзягі. Калі рабочы дом прызначаўся толькі для "чорных", то арыштанцкія роты па гэты конт былі менш пераборлівыя і ў іх траплялі таксама асобы прывілеяванага саслоўя.

У значнай колькасці арыштанцкія роты грамадзянскага ведамства знаходзіліся ў распараджэнні губернскіх будаўнічых камітэтаў; работы арыштантаў у гэтым выпадку заключаліся ў будаўніцтве і рамонце будынкаў, вуліц і дарог. Заработная плата ў памеры 4 капеек у суткі паступала на паляпшэнне ўмоў утрымання".

Дзе гарантыя таго, што П. Багрым не мог апынуцца ў такім незайздросным становішчы, асабліва, калі ўлічыць, якія неабмежаваныя правы даваліся пану-прыгонніку?

Тут нават агаворка на ўзрост не дапамагала, бо ўсё той жа М. Гернет пісаў: "Маленькіх злачынцаў цар адпраўляў у кантаністы, г. зн. для падрыхтоўкі ў салдаты. У архівах... сустракаліся згадкі пра такіх дзяцей ва ўзросце ад 9 і нават ад 7 гадоў. **Падлеткі ж, якім спаўнялася 17 гадоў, прызначаліся прама ў салдаты**".

Гаворка вялася пра 1830 год.

Як бачым, і тут царскімі законамі было прадугледжана, як распраўляцца і з малымі бунтарамі.

Здаецца, і ўсё зразумела, і, разам з тым, нічога адназначна сцвярджаць нельга.

Вядома, што і аднагодкі П. Багрыма — гімназісты, якія былі не старэйшыя за яго, таксама часта ішлі ў салдаты, і не за асабліва важныя рэчы, а за ....вершы. "Сярод гімназістаў мела хаджэнне забароненая літаратура, з'яўляліся вольналюбівыя вершы, за што навучэнцаў часта аддавалі ў салдаты, выключалі з гімназіі..." — піша В. Шалькевіч у кнізе "Кастусь Калиновский".

Была ў мяне надзея і на іншы аспект гэтага нявысветленага пытання ў жыццёвым шляху П. Багрыма. З'явілася яна даўно, яшчэ калі быў студэнтам гісторыка-філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага універсітэта. Аднойчы выступаў перад намі запрошаны на сустрэчу паэт М. Скрыпка. Распавядаючы пра гістарычнае мінулае Беларусі, пра трагічны лёс многіх таленавітых людзей, ён сказаў: "Вось вазьміце вы Бабруйскую крэпасць... Многія і не ведаюць, што яна існуе. Пра Брэсцкую чулі, а пра гэтую — не. А яна ж слаўная гераічнымі падзеямі. Там жа дзекабрысты сядзелі. І ў тыя ж гады там сядзеў і Паўлюк Багрым..."

Мне было цікава даведацца пра гэты факт больш падрабязна (яшчэ не ведаў, што далейшае жыццё злучыць мяне з гэтым горадам на доўгія гады), і я, пасля выступлення, падышоў да М. Скрыпкі, каб распытаць, што да чаго і дзе можна прачытаць пра П. Багрыма і пра тое, як ён знаходзіўся ў крэпасці. Паэт паабяцаў напісаць мне ліст і ўдакладніць першакрыніцы, адкуль сам чэрпаў звесткі.

Дарма я чакаў. Паэт памёр, і проста спаслацца на ягонае выказванне, вядома ж, нельга.

Ды потым гэты след зноў з'явіўся і даволі нечакана. Калі я працаваў над кніжкай "Крэпасць на Бярэзіне", то перабраў мноства самых розных матэрыялаў, дакументаў, картаў, фотакопій. Знайшоў рукапісную працу, якая таксама была прысвечана Бабруйскай крэпасці і захоўвалася ў гарадскім краязнаўчым музеі. Напісаў яе маёр Стальмашонак па загадзе палітаддзела гвардзейскай танкавай арміі, што на той час размяшчалася ў Бабруйску. Праца, сама па сабе, ніякай крытыкі не вытрымлівала. І ўсё ж я знайшоў мясціну, якая мяне надзвычай усхвалявала. Зноў згадка пра П. Багрыма. Падаю яе на мове арыгінала:, "Гневный протест самодержавно-крепостнического строя отразился в произведениях белорусского поэта Павлюка Вахримы (так у тэксце. — **А. Н.**), который за резкие антикрепостнические выступления был арестован, посажен в Бобруйскую крепость, а затем сдан в солдаты на 25 лет". Пачаў шукаць іншыя дакументы, якія б пацвярджалі гэта, ці хоць бы неяк ускосна сведчылі пра факт знаходжання П. Багрыма ў Бабруйскай крэпасці. У мясцовым краязнаўчым музеі нічым істотным не дапамаглі. У апошні момант нехта з супрацоўнікаў параіў мне звярнуцца да былога дырэктара музея Ф. Сідарэнкі: калі той не падкажа, то ў Бабруйску другога такога краязнаўцы няма ўвогуле.

Але як я ні спадзяваўся на гэтую сустрэчу, не дапамагла мне і яна. Фёдар Раманавіч зачытаў амаль аналагічную выпіску, якую пачуў некалі ягонь госць ад М. Скрыпкі, і вінавата ўсміхнуўся:

— А болей у мяне нічога пра гэта няма... нават не ведаю, адкуль узяў і гэта, бо нічога не запісана на адвароце...

Потым ужо я вырашыў дзейнічаць самастойна. Прадумаў дзесяткі са два варыянтаў прозвішча П. Багрыма, ягонага імя, акрэсліўшы прыкладную мяжу ў гадах паміж 1828 і 1835, а таксама звузіўшы кола пошукаў да арыштанцкіх і катаржанскіх рот і паслаў запыт у Цэнтральны гістарычны ваенны архіў, што ў Маскве. Спадзяваўся, што калі нешта там знойдзецца, няхай сабе і самае дробнае, то за гэтую нітку можна будзе пацягнуць увесь клубок заблытанай і даволі няўяснёнай ды супярэчлівай біяграфіі П. Багрыма. Тады б лёгка было ўстанавіць, дзе служыў салдат, кім быў у войску, у якіх баявых аперацыях удзельнічаў, ці меў узнагароды, а калі меў, то, адпаведна, за што і г.д.

Праз пару месяцаў прыйшоў з архіва афіцыйны адказ, паводле якога вынікала: чалавека з такім прозвішчам, у акрэсленыя мною гады, ні ў катаржанскіх, ні ў арыштанцкіх і нават у рэгулярных падраздзяленнях, што на той час размяшчаліся ў крэпасці, не было.

Усе гэтыя спробы высветліць, ці ж быў на самай справе П. Багрым у Бабруйскай фартэцыі, навялі на думку: калі ён і служыў у войску, то прычына магла быць і ў нечым іншым, больш празаічным. Не выключалася і тое, што П. Багрым мог трапіць у лік рэкрутаў па "чарзе", такое тады даволі часта практыкавалася. Але, паўторымся, пакуль што ніякіх дакументаў, якія б пацвярджалі гэты факт канчаткова, не знойдзена.

Не пагаджаюся і з выказваннем М. Маліноўскага, што "як склаўся лёс Вінцэнта і Валента (братоў Паўлюка. — **А. Н.**) невядома, але ў мяне ёсць меркаванне, што яны пайшлі ў рэкруты і згубіліся потым недзе на салдацкіх шляхах". Меркаванне ёсць меркаванне, але тады атрымліваецца, ці не занадта многа людзей пайшло ў рэкруты з адной сям'і?

Як бачым, пытанні застаюцца...

## КОЛЬКІ Ж ЁН НАПІСАЎ?

Тое, што Паўлюку Багрыму даследчыкамі прыпісваецца толькі адзін верш, — гэта бясспрэчна. Тут усё зразумела. Сцвярджалася і сцвярджаецца, што П. Багрым напісаў "Зайграй, зайграй, хлопча малы"... Але ж калі чалавек напісаў такі твор у 15—17 гадоў, то ён павінен быў пакінуць пасля сябе і нейкую пэўную літаратурную спадчыну, а не заставацца паэтам аднаго верша? Менавіта ў спробе адказаць на гэтае пытанне і пачынаюцца, дакладней, пачыналіся і працягваюцца непаразуменні і ўсялякія рознагалоссі. Кожны высоўвае сваю гіпотэзу, мяркуе, зыходзячы з нейкага канкрэтнага факта. Даследчыкі, якія далучыліся да справы значна пазней, становяцца прыхільнікамі той ці іншай версіі, зрэдку спрабуюць ісці самастойнай сцяжынкай у пошуках адказу на пастаўленае пытанне.

Але пачнём з самага пачатку, з публікацыі Ігната Яцкоўскага: "Пасля прачытання сенатар загадаў аддаць яму **сшытак** (падкрэслена мной. — **А. Н.**) і абодва (Навасільцаў і Пелікан. — **А. Н.**) паехалі з абяцаннем, што падумаюць пра лёс такога незвычайнага паэта. Ксёндз яго пагладзіў у знак задавальнення і запэўніў, што гэта яму выйдзе на карысць" (цытую па кнізе "Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст". Уклад. Г. Кісялёў).

Сам П. Багрым сведчыў, "После того и доныне находясь в услужении у кс. пробоща Магнушевского, выучивал разные стихи, переписываемые мною у органиста при плебании Георгия Орловского, в числе коих переписывал и выучил стихи в простом польском языке под именем "Rozmowa chłopow"... Но в бытность гродненского гражданского губернатора с чиновником своим г. Нечволодовым в последних числах мая сего года (1828 года. — **А. Н.**) у кс. пробоща Магнушевского, он, Магнушевский, в своем присутствии и бытности г. Нечволодова приказал мне помянутые стихи проговорить на память, что я и исполнил, а потом по просьбе г. Нечволодова и по приказанию кс. Магнушевского переписал оные и, еще раз прочитавши пред г. Нечволодовым, отдал ему лично".

Кс. Войцах Магнушэўскі паказаў:, "Паўлік жа ведае на памяць розныя байкі з Нарушэвіча, Эзопа і "Brukowych Wiadomości"". А. Янулайціс падкрэсліваў: "Кс. Магнушэўскі стаў хваліць Паўла Багрыма, што ён болей вершаў ведае, а не толькі тыя, **што ў яго ўзялі**" (колькі твораў забралі ў паэта, даследчык не ўдакладняе). М. Гарэцкі пісаў: "...У Багрыма начальства знайшло вершыкі, каторыя здаліся яму вельмі шкоднымі й небяспечнымі. Паліцыя забрала іх і шукала, ці няма яшчэ... Творы Багрыма не захаваліся, **апрача тых некалькіх** (падкрэслена намі. — **А. Н.**), што пайшлі ў народ. **Адзін сшытак** яго "вострых вершыкаў" узяў сабе сенатар Навасільцаў ці прафесар Пелікан, каторыя прыязджалі ў Крашын даведацца аб тым "бунце" і вельмі дзівіліся на паэта-самародка".

І вось ужо М. Клімковіч уводзіць у навуковы зварот "значны збор твораў" таленавітага самавука: "Аб П. Багрыму мы ведаем вельмі мала: ведаем, што ён быў прыгонным селянінам, што яго бацька ўдзельнічаў у паўстанні супраць крашынскага пана, што пры вобыску жандары знайшлі **тры сшыткі** вершаў Паўлюка і за гэта ён быў здадзены ў салдаты. Дзе знаходзяцца гэтыя **тры сшыткі**?". Гэтак жа сцвярджае і С. Майхровіч, і спасылаецца пры гэтым на... "Аповесці з майго часу, ці Літоўскія прыгоды": "...у Паўлюка Багрыма былі адабраны ў 1828 г. сенатарам Навасільцавым, тагачасным папячыцелем Віленскай вучэбнай акругі, **тры сшыткі вершаў** (падкрэслена мной. — **А. Н.**)". М. Прашковіч таксама пісаў пра **тры сшыткі вершаў** П. Багрыма.

Далей — болей. Таму ў М. Ларчанкі чытаем: "У Паўлюка Багрыма паліцыя зрабіла вобыск і знайшла **чатыры сшыткі яго вершаў** (падкрэслена намі. — **А. Н.**), якія здаліся ёй шкоднымі і небяспечнымі. Гэтыя сшыткі ў паэта забралі, а яго самога ўзялі пад нагляд, а потым здалі ў рэкруты на 25 гадоў... **Чатыры сшыткі вершаў** Паўлюка Багрыма, што забрала паліцыя ў часе вобыску, і да гэтага часу не знойдзены і, відаць, яны былі знішчаны".

У А. Лойкі прысутнічае такі факт: "Не стаў паэтам, бо быў здадзены ў салдаты, — гаворыць адна з легенд; не стаў, бо дасюль так і не знойдзены тыя **тры сшыткі вершаў** (падкрэслена намі. — **А. Н.**), якія ў юнага паэта нібыта забралі..."

Як бачым, тут аўтар агаворваецца, што спасылаецца не на канкрэтную дакументальную звестку, а на легенду, і гэта, у падобнай сітуацыі, бліжэй да ісціны.

Яшчэ пазней засумняваўся ў правільнасці названай лічбы "тры-чатыры" і другі даследчык — А. Мальдзіс: "...Праслухаўшы верш,

сенатар Навасільцаў загадаў аддаць яму **сшытак** (падкрэслена мной. — **А. Н.**), **не тры сшыткі**, як пісалі раней!".

М. Маліноўскі пайшоў іншым шляхам: "У сваіх драматычных сцэнах "Юнак з Крашына" пісьменнік Язэп Дыла згадвае іншыя вершы Багрыма: **"Ціша на рэчцы"**, **"Раніцою ў лесе"**, **"Шыпшына цвіце"** (падкрэслена мной. — **А. Н.**) і нават прыводзіць такія радкі аднаго з вершаў: "Гукнем жа ўсе мы разам: "Годзе гэтага здзеку з чалавека, падабенства самога Бога!"

Адам Мальдзіс падкрэсліваў, што асоба Паўлюка Багрыма менавіта як паэта ўспрымалася грамадскасцю яшчэ ў мінулым стагоддзі. Калі Ігнат Дамейка, удзельнік філаматаў руху на Наваградчыне, наведаў пасля многіх гадоў выгнання сваю Бацькаўшчыну ўжо вядомым вучоным, асветнікам з далёкай Чылі, дзе схаваўся ад арышту, то разам з Антонам Адынцом наведалі ў 1884 годзе Крашын, пабывалі ў Паўлюка Багрыма.

В. Ляшук ужо ў 80-ыя гады XX стагоддзя робіць паведамленне, здавалася б, падобнае на сенсацыйнае, але ж... Учытаемся лепей у тое, што яна пісала: "Ответ получила чрезвычайно лаконичный. В нем были переписаны два стиха и сделана небольшая приписка. Цитирую ее: Записаны от жителя деревни Подлазье Ляховичского района Петрашкевіча Ивана Марковича, 1894 года рождения. Он знал родственников поэта, которые жили в соседнем Барановичском районе (д. Утес). Помнит **о каких-то тетрадях** (падкрэслена мной. — **А. Н.**), о них рассказывал его дядя. Думается, что это и есть те тетради, которые полиция нашла во время обыска у Павлюка Багрима". Стихи назывались "Мое поколение" и "Отец и его земляки".

Хоць у артыкуле далей даследчыца спасылаецца на словы вядомага беларускага вучонага С. Александровіча, гэтая спроба ніякай яснасці ў тлумачэнні прапануемай версіі не ўносіць: "Давялося пачуць і аб тым, што калісьці ў крашынскім млыне, калі збіралася шмат завознікаў, ці ў святочны дзень у карчме сяляне дэкламавалі вершы П. Багрыма.

На жаль, ніхто раней не паклапаціўся запісаць і сабраць творы, якія бытавалі ў народзе. Зараз зрабіць гэта цяжка: многіх людзей ужо няма ў жывых, многія выехалі з Крашына.

Адзін са старэйшых жыхароў мястэчка Вікенцій Васілеўскі сказаў: "Багрым — каваль быў важны і чалавек добры, ён **штосьці сачыняў**, але мала аб гэтым каму гаварыў..." (цытую па кнізе С. Александровіча "Тут зямля такая").

Але мы не будзем рэзка катэгарычнымі і безапеляцыйнымі, як, напрыклад, М. Маліноўскі: "Як піша далей В. Ляшук, пры сустрэчы са студэнтамі гэты настаўнік адмовіўся рабіць якія-небудзь удакладненні, а І. Петрашэвіч, чалавек, які нібыта перапазаў вершы, памёр. Мо гэты настаўнік спачатку рашыў зарабіць сабе славу на Багрыме, а калі адчуў пільную ўвагу да гэтага, то і адмовіўся весці ўсялякія размовы, каб не выкрылі яго хітрыкі?" Хоць і такая версія баранавіцага краязнаўцы мае права на існаванне. Яна не пацверджана, але і не абвергнута канчаткова.

Справа ў тым, што любую версію трэба правяраць, бо самая тоненькая зачэпка можа прывесці да сенсацыйнага выніку. Не атрымалася ў даследчыцы — гэта іншая справа, але хто ж не памыляецца?

Дарэчы, тая ж В. Ляшук, асабліва не правяраючы факты, памыляецца, калі піша: "Ім аказаўся П. Багрым. Ён прынёс з сабою **тры сшыткі сваіх твораў**, дастаў адзін з-за пазухі і прачытаў некалькі беларускіх вершаў. Крамола!"

Тым часам пошукі літаратурнай спадчыны Паўлюка Багрыма працягваюцца. Я. Пархута ў нарысе "Лотаць цвіце..." апісваў, як ён падчас сваёй паездкі ў Крашын гутарыў з людзьмі, якія добра ведалі дачку Паўлюка Багрыма (Багрымшу) і яе дзяцей Фрыдрыха, Івана і Ванду; Багрымша з сям'ёю ў 1914 годзе выехала ў Расію і болей у гэтыя мясціны не вярнулася. Аўтар нарыса, здавалася б, натрапіў і на след вершаў Паўлюка Багрыма. Быццам бы іх ашчадна зберагаў адзін з завадатараў Крашынскага бунту Казімір Камінскі, якога з-за слабога здароўя не аддалі ў салдаты, не выслалі нават у Сібір і ён пражыў да канца сваіх дзён непадалёку ад Крашына ва ўрочышчы Залужжа. Перад смерцю К. Камінскі перадаў **"сшытак Багрымавых вершаў"** свайму сыну Антону. Той хаваў іх за бэлькаю хаты і "толькі ў рэдкіх выпадках, калі збіралася ў хаце ўся радзіна, даставаў той сшытак і чытаў вершы". Гэты сшытак нібыта загінуў у 1941 годзе. Ад яго засталася толькі зялёная вокладка. Яе паказвала Я. Пархуту дачка К. Камінскага Алена, расказаўшы ўсю гісторыю пра Багрымавы вершы.

Вось так зусім нечакана выплываюць усемагчымыя факты-драбніцы з жыцця і дзейнасці Паўлюка Багрыма — "беларускага Бёрнса", і дзе гарантыя, што могуць і сапраўды з'явіцца дакументы, якія пацвердзяць наяўнасць новых, невядомых дагэтуль літаратурных твораў таленавітага крашынца.

**Аляксей НЕНАДАВЕЦ**

ПАМЯЦЬ

# Замест развітання

...Самыя першыя "крокі" ў лялечнае мастацтва" Юрыя Сарычава прыпалі якраз на "бум" вакол тэатра ў 70-я гады. Калі білеты магчыма было толькі дастаць. І толькі за два месяцы да спектакля.

Юрый Сарычаў выдаваў на праўдзівую лялечную "зорку" і спраўдзіўся як "зорка". Ягоныя ролі са спектакляў Штока, Друды, Ляскова, Валенштайна, Маякоўскага і Шукшына сталіся падмуркам да вышынь сталага майстра, якім ён стаў у 80-я гады.

Вострае пачуццё гумару, дакладнае ўспрыманне жанру, разняволенасць і тэхнічная дасканаласць кшталціць для тэатральнай Беларусі рэдкі талент.

Са з'яўленнем новых тэатральных ідэй у Юрыя прыбыло роляў; амаль кожная з іх — тэатральная з'ява. Мы памятаем яго купца Гразкова са спектакля "Ляўша" Б. Рацара і Канстанцінава, Швейка і обер-фельдкурата Каца ў "Прыгодах бравага салдата Швейка", спадара Буанасье ў "Шэвальe Д'артаньяне", дабрака ў "Сымоне-музыку" Коласа і яшчэ шмат іншых.

Але перапічанае — праца з лялькамі ды маскамі. А які ён быў выдатны ў так званым "жывым плане" — у драматычнай кантаце "Зорка і смерць Хуакіна Мур'еты" П. Неруды (роля аднаго з вядучых)! І, нарэшце, самыя значныя працы — Гефест са спектакля "Хачу быць богам" А. Вярцінскага, Калібана з "Буры" У. Шэкспіра і Афанасій з "Майстра і Маргарыты" М. Булгакава.



Вобразы, створаныя за дзесяць гадоў, не засталіся без увагі тэатральнай грамадскасці: Юрыю Сарычаву надалі ганаровае званне заслужанага артыста Беларусі. Але тое, што ён робіць, ужо не задавальняе яго. Юрый намагаецца выявіць сябе ў рэжысуры. Першымі спробамі зрабіліся яго шматлікія "капуснікі" — цешыць, весяліць ён мог нястомна.

Мінуў нейкі час і Сарычаў ставіў спектаклі для дзяцей і дарослых на сцэнах Мінска, Брэста і Маладзечна. Ягоныя спробы пры намаганні, праўда, не заўсёды былі адпаведнымі ды паспяховымі. Але любоў да тэатральнага мастацтва, прага выявіцца ў розных жанрах і ў розных іпастасях рабілі яго жаданым удзельнікам многіх праектаў і задум.

...44 гады — гэта вельмі мала і вельмі многа. Юрый Сарычаў пайшоў з жыцця ў 44. У яго часта балела сэрца. Мо ад таго, што многае з задуманага не рэалізоўвалася? Прыспешыла драматычную развязку і заўчасная смерць жонкі... Але нам Сарычаў пакінуў шмат шчырага і таленавітага. І як творца, і як чалавек.

**Уладзімір ГРАМОВІЧ,**
**заслужаны артыст Беларусі**

КАНТАКТЫ

# Масток між Усходам і Захадам

***Лепшая канцэртная зала Мінска прымала Камерны аркестр універсітэта нямецкага горада Карлсруэ. Адзін з найвядомых аркестраў ВНУ Германіі, ён актыўна гастралюе па іншых краінах. А сёлета ў сябе "дома", падчас еўрапейскага фестывалю фальклорных ансамбляў у Карлсруэ, калектыў наладзіў творчыя і сяброўскія кантакты з беларускай "Ведрыцай". Дзякуючы гэтаму, а таксама фінансавай падтрымцы Міністэрства замежных спраў Германіі адбыліся гастролі універсітэцкага аркестра ў Мінску. З кіраўніком калектыву Дзітарам Кёнляйнам пагутарыў наш нештатны карэспандэнт.***

**— Маэстра Кёнляйн, аркестр пад вашым кіраўніцтвам выступаў перад мінскай публікай у вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі і ў Доме дружбы з замежнымі краінамі. Ці першы раз вы на Беларусі?**

— Так, першы раз. 10 гадоў таму наш аркестр пабываў у Расіі: у Пецярбурзе і Краснадары, 5 гадоў таму мы наведалі Рыгу, але на Беларусі — упершыню.

**— Якое ўражанне зрабіў на вас горад Мінск?**

— Цудоўнае! Мы былі вельмі здзіўленыя веліччнёй горада, вельмі спадабаўся праспект Скарыны, адметныя пабудовы Мінска.

**— Вы ўзначальваеце камерны аркестр універсітэта ў Карлсруэ. Відаць, ёсць праблема штогадовай змены складу аркестра, у якім іграюць студэнты?**

— У складзе нашага аркестра іграюць музыканты рознага ўзросту, не толькі тыя, хто зараз навучаецца ва універсітэце. Таксама удзельнічаюць зусім маладыя выканаўцы — школьнікі, якія прыходзяць у аркестр да паступлення ва універсітэт, а некаторыя застаюцца і пасля заканчэння навучальнай установы. Такім чынам, пэўная сталая група людзей уваходзіць у склад аркестра на працягу многіх гадоў.

**— Якую музыку вы пераважна выконваеце: рамантыку, класіку ці, можа, сучасную?**

— Практычна, мы выконваем музыку ўсіх стыляў і жанраў, пачынаючы з барока — да сучаснасці. У Мінску, як вядома, igралі і Чайкоўскага, і Дворжака, і Шастаковіча — сучаснага кампазітара, якога мы вельмі паважаем.

**— Мне падаецца, што творчасць Шастаковіча ўжо "класіка" мастацтва XX стагоддзя, я меў на ўвазе музыку нашых непасрэдных сучаснікаў.**

— Сапраўды, мы хутчэй іграем "класіку" мадэрнізму — Бартака і Стравінскага. Што да авангарда, то мы практычна ім не займаемся, выконваем вельмі рэдка.

**— Чаму — рэдка?**

— Авангард — гэта вельмі своеасаблівая і цяжкая для выканання, і, дарэчы, для ўспрымання, музыка. Тут існуюць пэўныя тэхнічныя складанасці. Наш аркестр — не прафесійны, аматарскі, а такая музыка вымагае шмат высілкаў і часу, якога ў нас, на жаль, няма.

**— На ваш погляд, ці залежыць характар аркестравага гучання ад узросту ўдзельнікаў аркестра?**

— Мы — вельмі малады аркестр, а маладыя людзі — асобы вельмі эмацыянальныя, што, увогуле, добра для заняткаў музыкай, якая яшчэ не зрабілася для іх руцінай. Яны іграюць і сэрцам, і розумам, а гэта — даволі ўдалае спалучэнне.

**— Я ведаю, што паводле першай адукацыі вы — фізік. Як сталася, што вы пачалі займацца музыкай і вось узначальваеце гэты аркестр?**

— Гэта вельмі "шчаслівая" гісторыя. Музыка заўсёды была важнай часткай майго жыцця. Калі я быў маленькі, мог спяваць на працягу цэлага дня. Вельмі рана ў сваім юнацтве пачаў іграць на фартэпіяна, гэта магло доўжыцца некалькі гадзін запар. Потым я ўзначальваў хор у школе, дзе сам навучаўся, а пасля заканчэння школы працаваў з іншымі вялікімі хорамі. Затым захапіўся камернай музыкай і граў у складзе струннага трыо. А 25 гадоў таму ў мяне ўзнікла ідэя арганізаваць аркестр. Лёс яго склаўся вельмі ўдала. Мы сталі пераможцамі разнастайных музычных конкурсаў у Германіі, каля 30 разоў былі ў гастрольных турнэ, падарожнічалі па ўсім свеце.

**— Ці плануеце вы яшчэ раз выступіць на Беларусі ў бліжэйшай будучыні?**

— Я не магу зараз дакладна сказаць наконт наступнага года, у нас — вялікія планы, якія мы складаем загадзя. Але я не хачу сказаць, што гэта — наш апошні візіт. Мы ў добрых, сяброўскіх адносінах з фальклорным гуртом "Ведрыца", па запрашэнні якога і прыехалі на Беларусь. Спадзяюся, што гэтыя беларускія музыкі яшчэ раз прыедуць да нас, а мы — да вас. Увогуле, мяне цікавяць усходнееўрапейскія краіны, мы нібыта будуем "культурны мост" паміж Усходам і Захадам.

**Гутарыў Алесь ВОЛЬША**

# На фестываль — сем'ямі

Міністэрства культуры краіны разам з упраўленнем культуры Гродзенскага аблвыканкама і Слонімскім райгарвыканкамам вырашылі правесці II Рэспубліканскі фестываль сямейнай творчасці, які адбудзецца ў рамках Першага фестывалю народнага мастацтва Беларусі "Беларусь — мая песня". Ён закліканы садзейнічаць развіццю і папулярызацыі сямейнай мастацкай творчасці, захаванню і пераемнасці нацыянальных сямейных традыцый, павышэнню мастацкага ўзроўню і выканальніцкага майстэрства сямейных калектываў, а таксама прыцягнуць увагу грамадскасці да праблем сям'і, павысіць якасць арганізацыі вольнага часу насельніцтва.

Да ўдзелу ў фестывалі запрашаюцца лепшыя калектывы сямейнай творчасці ўсіх відаў і жанраў народнага мастацтва, у тым ліку дэкаратыўна-прыкладнога і пекарскага, незалежна ад месца пражывання, работы, адукацыі.

Ад кожнай вобласці і г. Мінска склад дэлегацыі разам з вадзіцелямі не павінен перавышаць 30 чалавек.

Заяўка на ўдзел падаецца ва ўстаноўленай форме, запаўняецца друкаваным ці рукапісным (разборліва) спосабам, пажадана на беларускай мове.

Конкурсныя выступленні калектываў ацэньваюцца журы, якое звяртае ўвагу на адметнасць рэпертуару (наяўнасць аўтарскіх твораў, рэгіянальнасць музычна-песеннага рэпертуару), узровень выканаўчага майстэрства, сцэнічную культуру, арыгінальнасць манеры выканання. Журы вызначае намінацыі, па якіх выяўляюцца па адным лепшым калектыве і якім прысуджаецца званне "лаўрэат фестывалю". Пры неабходнасці журы мае права ў кожнай з намінацый надаваць, але не больш чым двум калектывам, найменне "дыпламант фестывалю".

Лаўрэаты і дыпламанты фестывалю будуць прымаць удзел у заключных мерапрыемствах Першага фестывалю народнай творчасці Беларусі "Беларусь — мая песня", якія адбудуцца ў ліпені 1998 года ў г. Мінску.

АБ'ЯВЫ

БЕЛАРУСКАЯ
АКАДЭМІЯ
МАСТАЦТВАЎ

АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС

**на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага складу:**

прафесар кафедры праектавання выстаў і рэкламы (1), прафесар кафедры жывапісу (1), дацэнт кафедры жывапісу (1), дацэнт кафедры дызайну (2).

Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання аб'явы.

*Заявы і дакументы падаваць на імя рэктара акадэміі па адрасе: 220012, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 81, аддзел кадраў: тэл.: 2-32-77-34.*

